PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 19 (2139) Год XLII Беласток 11 мая 1997 г. Цана 1 зл.



*Парэшце вясна...* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Веснавыя разважанні гаспадара

Якая толькі групоўка дарвецца да ўлады, унушае людзям, як яна аб іх дбае. Лёс наш для яе не чужы і ўсё робіць, каб нам жылося лепш. Стараюцца з усіх сіл, не спяць, па начах засядаюць, жонак і дзяцей сваіх мала наведваюць. Усе сілы аддаюць за наша лепшае жыццё. Па ўсім свеце ездзіць мусяць, пачаўшы ад прэзідэнта, а закончыўшы на парламенцкім сторажы. Няма ўжо такога куточка на зямлі, каб яго не наведалі. І ўсё з думкай аб нас. Стараюцца яны размаляваць нашу краіну з усіх бакоў, даказаць, што ў нас сапраўдная дэмакратыя, ну, амаль рай. Просяць: прыязджайце да нас, інвестуйце ў нашай краіне, таргуйце з намі. Толькі памажыце нам у НАТО і Унію ўвайсці, а мы вам за гэта ўсё рабіць будзем. А вядома, падарожжа каштуе. А якія гэта цяжкасці і небяспека! А нам і ў Беласток цяжка дабрацца, што гаварыць пра свет? Падумайце толькі самі. Ну і нашы дыпламаты не такія ўжо багатыя як амерыканскія бізнесмены. У іх не пераліваецца, а ехаць трэба. І што нам станецца, як мы дакінем да паездкі? Гэта ж для нашага дабра. Праўду кажуць: „с миру по нитке, голому рубашка". Паглядзіце толькі і падумайце. Некаторым ужо дапамаглі. Вынікі відаць. Сяляне, напрыклад, ужо разбагацелі: свірны поўныя збожжа, капцы трышчаць ад бульбы. Прыйшла вясна і дабро хоць выкідай. А на кірмашах і ў крамах поўна хлеба. Як у казцы. З бульбы таксама няма чаго рабіць? Хтосьці скажа: „А гарэлку?" О, гарэлку, дык не! Гарэлка нам непатрэбная, бо мы цяпер народ культурны, у Еўропу спяшаем, а там п'яных не прымаюць. А глядзелі ў тэлевізары тых, што хмель вырошчваюць? Столькі ім абрадзіла, што аж у Варшаву прывезлі. І задарма па вуліцах раскідалі. Бачыце самі, што багацеем з кожным днём. А яшчэ крыху пачакаем, тады зажывем. Калі ўжо Унія нас прыгалубіць, нічога рабіць не трэба будзе. Ужо і цяпер некаторыя сяляне з капцоў бульбу выбіраць не хочуць. Кажуць, што дачакаліся дабрабыту, хай яна згніе ў капцах. І як тут плакаць, што мы небагатыя. На прыезд папы рымскага колькі грошай мы прызначылі? Відаць, маем з чаго! І трэба каб прыехаў, ён жа наш чалавек. Яшчэ ён вышэй як чалавек. А што там некалькі дзесяткаў мільёнаў. А можа нам паможа? Ад яго ўсяго можна спадзявацца. Ён амаль як Госпадзь на небе! А грошы рэч набытая. А мы якісьці час памятаць будзем. А так, між намі гаворачы, вось каб гэтыя грошы для нас на вёску прызначыць. Мы б ачышчальню сцёкаў зрабілі. Памяць асталася б яшчэ і ў нашых праўнукаў. Толькі куды нам да гэтага!

А цяпер з другога боку заглянем без жартаў. Людзям жывецца штораз горш. І ў горадзе, і на вёсцы, усюды аднолькава. Не ўсім, гэта праўда! Толькі тых можна на пальцах палічыць. А рэшта канцы з канцамі амаль зводзяць. У горадзе, калі бяда прыпячэ, людзі маюць як ратавацца: за транспаранты і на вуліцу. Страйкавалі чыгуначнікі, настаўнікі, гарнякі, а цяпер працаўнікі аховы здароўя. І так дзень за днём, і хтосьці іх выслухае і свайго даб'юцца. У горадзе адны другім дапамагаюць, і то да той пары, пакуль не перамогуць уладу. А яна спярша пераконвае, наракае, круціцца як адурманеная, а потым паддаецца. Горш на вёсцы. Селяніну дапамагчы няма каму. З яго не толькі насміхаюцца, а нават і ў парламенце сялянскія законы за жарт прымаюць. А што каго абыходзіць, што сяляне не маюць каму свой прадукт прадаць! Ім важна, каб у крамах хлеб і булкі былі, да таго смачныя, але ніхто не пытае, з якой яны мукі. І так з рэштай сельскагаспадарчай прадукцыі. „Не маеш дзе збыць, не прадукуй". — кажуць улады. А з чаго селяніну жыць? Дэмакратыя, свабода, сам аб сабе клапаціся. Аднак сваё, селянін, ведай. Падаткі плаці, за ваду, святло і за ўсе выгады. Ды глядзі, каб яны табе бокам не вылезлі. І не наракай, уладу хвалі, на выбары хадзі. А ўлада ведае, што табе трэба. Праўду калісь гаварылі: „Хозяин знает, что кобыле надо". Таксама і цяпер. І не лепш выглядаюць справы школьніцтва і дзіцячых дамоў. Тут толькі калі не хапае грошай, дзетдом закрываюць, а дзетак разганяюць у другія месцы. Вось і каля Вроцлава дзіцячы дом закрылі, бо няма на рамонт. А яшчэ не дай Бог, папа давядаецца — гэта ж пад бокам. І што тады? Другі раз не прыедзе. Падумае: „Разжывіцеся, а я пачакаю". А шкада было б.

На канец пару слоў пра сялян скажу. Калі ва Унію ўвойдзем, сялян разагнаць трэба будзе. Навошта малыя гаспадаркі, каб пад нагамі тапталіся. Прыклад з заграніцы браць трэба будзе, дзе гаспадаркі вялікія, змеханізаваныя, рэнтабельныя. А з нашых яны смяяцца будуць. А як будзем жыць? А што нам цемнякам думаць, няхай улады за нас вырашаюць. А навошта мы іх выбіралі! І яшчэ неадночы папросяць, каб іх выбіраць. Хаця за адным у ласку на вёску прыходзяць.

Грыша МАРОЗ

# Май месяц...

Некаторыя гавораць, што май — гэта месяц закаханых, іншыя — што самагубцаў, а апошнім часам — што аматараў ўсялякіх свят. У сапраўднасці амаль палова дзён у гэтым месяцы з'яўляецца „выхаднымі", а прытым амаль усе грамадзяне маюць тут час на вялікае святкаванне. Працоўны люд і яго ўсялякія любіцелі адзначылі сваю прысутнасць на нашай прыгожай планеце ўжо першага дня месяца. Разам з пралетарыятам Кубы, Кітая, Беларусі, рабочымі і „працоўнай інтэлігенцыяй" Нямеччыны, Францыі, Італіі аб'явілі яшчэ раз пра сваё існаванне знакамітыя палітыкі III Рэчы Паспалітай. Традыцыйна ўжо калі адны крычалі „мы за", другія адгукаліся „мы супраць". Тэма ці прадмет дыскусіі не маюць тут ніякага значэння. Два дні пасля — 3 мая — мелі нагоду святкаваць патрыёты-католікі Польшчы... і праваслаўныя Заблудаўскай парафіі.

8 мая ўсе спутнікі НАТО, у тым ліку і Польшча, гарматнімі выстраламі і парадам вайсковых падраздзяленняў ушаноўваюць гадавіну перамогі над фашызмам. Дзень пасля з гэтай самай нагоды адбудуцца вялікія ўрачыстасці ў краінах былога Савецкага Саюза. Пакуль што невядома, калі ў сапраўднасці закончылася II сусветная вайна ў Еўропе. Але гэтым разам у разыходжанні часу не вінаваты ні юліянскі, ні грыгарыянскі календары.

У недалёкай будучыні чакае нас другі доўгі святочны перапынак, які трывацьме будзе ад 29 мая да 2 чэрвеня. У японцаў столькі святочных дзён няма нават на працягу цэлага года. Але мы, славяне-сяляне, любім перш за ўсё традыцыю, абраднасць, свойскасць. А тыя няшчасныя касавокія людзі ўсходняй Азіі толькі працуюць і працуюць, а пасля не ведаюць, што рабіць з грашамі і здуру купляюць фабрыкі, дамы, а нават цэлыя вуліцы ў Амерыцы і заходняй Еўропе.

Нягледзячы на колькасць святочных дзён у маі гэтага года, толькі пажылыя людзі ведаюць сапраўдную атмасферу найважнейшага дня гэтага месяца, калі працоўны люд з чырвонымі сцягамі ішоў прадэманстраваць сваю адданасць ідэі салідарнасці з таварышамі братніх краін сацыялістычнага лагера, з народамі Азіі і Афрыкі змагаючымся з каланіяльна-імперыялістычным прыгнётам, а таксама з галадаючым пралетарыятам Амерыкі і капіталістычнай Еўропы. Пасля паругадзіннага шэсця „народныя масы" кіраваліся ў напрамку гастранамічных пунктаў, якія ў гэты дзень асабліва багата былі забяспечаны прадуктамі першай патрэбы сацыялістычнага грамадства — півам, танным віном, марожаным і іншымі ласункамі. Фэсты, забавы трывалі да позніх гадзін вечара. Адчувалася сапраўднае свята. Цяпер падчас усялякіх майскіх святкаванняў з ранейшага перыяду асталіся толькі нудныя прамовы розных фюрэраў. Нават характар іх выступленняў амаль такі сам — надзьмутая, незразумелая звычайным людзям балбатня і тысячы слоў, быццам бы, заклапочанасці пра лёс краіны і яе жыхароў. Фальш, крывадушнасць і свянцоная вада. Страх тады нават уключаць тэлевізар.

Васіль КУРГАНОВІЧ

# Мы прачыталі

*Po niespełna siedmiu latach Rosja znów wróciła do Europy Środkowej — całą imperialną potęgą. W razie potrzeby Rosjanie mogą w ciągu 3-4 godzin znaleźć się z kilkoma dywizjami pancernymi na przedmieściach Warszawy. W pół godziny — śmigłowcami, w kilka minut flotą powietrzną. Przed zjednoczeniem z Białorusią Rosję od Polski dzieliło 700 kilometrów i terytorium suwerennego wtedy państwa. Konflikt na granicy z Polską kosztem Białorusi może być zbawczy dla Rosji, dla odwrócenia uwagi od fatalnej sytuacji gospodarczej w obu państwach. Prezydent Białorusi aż się pali do tego, aby kogoś pobić. Kto wie, czy nie otrzyma zezwolenia na takie działania. Nie ma przecież pewności czy Łukaszenko nie będzie wkrótce rzecznikiem udzielenia tradycyjnej „bratniej pomocy” chociażby Białorusinom mieszkającym w Polsce.*

*Najwyższy Czas, nr 16*

Нават каля Сувалкаў людзі гавараць, што непатрэбна спынілі навучанне рускай мовы. Англійскай Аляксандр Рыгоравіч і так не разумее.

* * *

*У Беларусі надалей будуць выдавацца кнігі на беларускай мове, што сведчыць пра дзяржаўную падтрымку беларускамоўнаму друку,* — інфармуе

*Звязда, н-р 61*

Чорны гумар найвышэйшай якасці.

* * *

*Cechą wynaturzeń postkomunistów i ROP-u jest nieprzytomna NATO-mania, przypominająca zachwyty nad Związkiem Sowieckim w latach PRL. Jeżeli chodzi o Unię Europejską, to różnice sprowadzają się wyłącznie do tempa proponowanej integracji. Inną cechą tych programów jest pokorne germanofilstwo i uznanie Niemiec za „starszego brata”, opiekuna i dobrotliwego wujaszka wprowadzającego Polaków do euroraju. Z reguły uznanie kierowniczej roli Niemiec wiąże się z mniej lub bardziej agresywną postawą wobec Rosji, a nawet pogardą dla naszego wschodniego sąsiada.*

*Myśl Polska, nr 15*

Тыднёвік гэты з'яўляецца органам ЗХНу, наймацнейшай партыі ў блоку Выбарчай акцыі „Салідарнасць". Да гэтай пары такія выказванні былі толькі ў часопісе „Nie" Ежы Урбана. Узнікае даволі моцная і дзіўная кааліцыя.

* * *

*Ludzie na Zachodzie idą do polityki, nie po to żeby sobie zarobić, tylko żeby zbudować sobie platformę do luksusowego życia później, kiedy skończą pracę na świeczniku. Prezydent, minister może zarobić parę milionów dolarów rocznie jako konsultant i wykładowca. Im większa jego legenda, im większe sukcesy sprawowania urzędu, tym bardziej różowa przyszłość potem. Polityk na Zachodzie wie, że pracuje na siebie i strasznie się stara, żeby odejść z pochwałami.*

*Inwazja beztalencia w polskim życiu publicznym spowodowana jest tym, że podczas sprawowania urzędu można tam jak na nasze warunki nieźle zarobić. Na zachodzie Europy i USA, gdzie systemy demokratyczne są najsprawniejsze, politycy są opłacani bardzo umiarkowanie, żeby nie powiedzieć skąpo. Kilku polskich restauratorów w Chicago zarabia kwartalnie więcej niż prezydent USA rocznie, nie mówiąc już o byle szarpidrucie z zespołu rockowego. Amerykańscy ministrowie to niemal nędzarze w zestawieniu z prawnikami lub ekspertami finansowymi prywatnych firm. Dla polityka w Polsce zostanie ministrem czy posłem jest największym i najczęściej jedynym osiągnięciem w życiu, więc trzyma się stanowiska kurczowo do ostatnich sekund. Po wyjściu z urzędu większość oficjeli czeka czarna dziura. Zmartwieniem naszych polityków nie jest utrzymanie umysłu i zdolności przewodzenia zespołowi, którym kieruje, tylko przebiegłość w obrzydliwych na ogół gierkach partyjnych. Obsesją naszego prominenta nie jest zrobienie czegoś wielkiego na stanowisku, które zajmuje. On musi dbać o to, by ktoś go nie wykopał. Bo za drzwiami czeka biedna pustka.*

*Kurier Poranny, nr 90*

* * *

*Po wprowadzeniu moratorium na wykonywanie kary śmierci liczba ofiar morderstw gwałtownie wzrosła. W połowie lat 80. popełniono ok. 500 zabójstw. W 1995 r. zamordowano już w Polsce 1 134 osoby. Wszystko wskazuje na to, że w 1996 r. liczba ta została przekroczona. Osadzony w więzieniu w Strzelcach za zabójstwo czwórki dzieci Mariusz Trynkiewicz sam decyduje, kogo opiekunowie mają mu dokwaterować do celi. Wszyscy obchodzą się z nim jak z jajkiem. Aby tylko był spokój, aby nie spowodować wybuchu gniewu u więźnia. Zabójca dzieci zgadza się przyjąć do celi tylko tych więźniów, którzy odpowiadają mu temperamentem, wiekiem i urodą. Trynkiewicz, który zamordował 4 chłopców, wyjdzie na wolność w 2000 r. Będzie miał wtedy 44 lata. Morderca siedzi w celi z telewizorem, jest utrzymywany i karmiony za nasze podatki, podczas gdy nasze dzieci od lat leżą w grobach* — mówią rodzice pomordowanych.

*Polityka, nr 16*

# З мінулага тыдня

**Савет Бяспекі Расеі і польскае Бюро Нацыянальнай Бяспекі** будуць праводзіць рэгулярныя кансультацыі. Гэтую дамоўленасць, дасягнутую ў ходзе візіту ў Варшаву сакратара Савета Бяспекі Расеі **Івана Рыбкіна**, адобрыў прэзідэнт **Аляксандр Кваснеўскі**. Стварэнне пастаяннага механізма польска-расейскіх кансультацый, — адзначыў расейскі госць, — заклікана ў рабочым парадку ліквідаваць і прадухіліць узаемныя сумненні і непаразуменні як у двухбаковых адносінах, так і ў знешнепалітычнай галіне.

**Прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі** лічыць, што суверэнная і незалежная **Украіна** з'яўляецца для Еўропы стратэгічна важным элементам, які стабілізуе новую сістэму бяспекі на кантыненце. Такую заяву зрабіў ён у ходзе падрыхтоўкі да дзяржаўнага візіту на Украіну ў маі г.г. Прадугледжваецца, што ў Кіеве кіраўнікі дзвюх дзяржаў падпішуць дэкларацыю прымірэння, якая загарнула б старонкі горкага мінулага ў адносінах паміж Варшавай і Кіевам.

**Ветэраны Войска Польскага** выраншылі рэканструяваць цэнтральны помнік польскім воінам, якія загінулі ў беларускім пасёлку Леніна Горацкага раёна. Тут 12 кастрычніка 1943 г. польская Пяхотная дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі разам з часцямі Савецкай Арміі ўступіла ў бой з фашыцкімі захопнікамі. У гэтай бітве загінула больш як пяцьсот жаўнераў. На брацкай магіле будзе ўстаноўлена мармуровая сцяна, на якой будуць упісаны імёны ўсіх воінаў, якія тут загінулі.

**Прыстасаванне польскай усходняй мяжы** да стандартаў, якія абавязваюць у Еўрапейскім Саюзе, патрабуе значных грашовых сродкаў, — заявіў віцэ-міністр унутраных спраў і адміністрацыі **Януш Шыманскі**. Апрача сваіх уласных фінансаў, Польшча павінна атрымаць 100-120 млн. экю дзеля змены многіх законаў, увядзення новых узораў пашпартоў, вадзіцельскіх правоў і іншых дакументаў ды разбудовы прыгранічнай інфраструктуры. Польскі бок стараецца цяпер атрымаць ад Захаду 32 млн. экю.

**Міжнародны кірмаш харчовых тавараў і абсталявання для перапрацоўкі сельгаспрадукцыі „Фідынг — Вясна '97"** адбыўся ў Беластоку. Прымалі ў ім удзел і беларускія таваравытворцы. Для іх польскі бок прадугледзеў ільготныя ўмовы — прадастаўлены былі выставачныя пляцоўкі па нізкіх цэнах, бясплатны перакладчык, арганізаваны безвалютны праезд. Акрамя дэманстрацыі свае прадукцыі беларускія бізнесмены прынялі ўдзел у спецыялізаваным семінары, дзе абмяркоўваліся магчымасці стварэння сумесных прадпрыемстваў, а таксама пазнаёміліся з дзейнасцю Усходняга эканамічнага таварыства, якое садзейнічае кааперацыі з краінамі СНД.

**Беларускія і польскія эколагі** падчас сустрэчы ў Белавежы пастанавілі абменьвацца інфармацыяй наконт даследаванняў паверхневых водаў. Прадстаўнікі Навукова-даследчага інстытута меліярацыі і зялёных угоддзяў з Менска прапанавалі распрацаваць праграму прагназіравання зьмяненняў якаснасці і колькасці вады, якая ўліваецца з тэрыторыі Беларусі ў Семяноўскае вадасховішча. Такая праграма магла б быць створана на аснове вынікаў 20-гадовых даследаванняў беларускіх навукоўцаў. Польскі бок сваю пазіцыю ў гэтай справе прадставіць на чарговай сустрэчы. Абодва бакі будуць імкнуцца распрацаваць комплексны міжнародны праект аховы водаў усёй Нарвы як тыповага басейна ў сярэдне-ўсходняй Еўропе.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Бельск і яго гісторыя паводле археолагаў.
- Провады — праваслаўнае свята памерлых — рэпартаж Ганны Кандрацюк.
- Працяг дыскусіі пра культуру гандлю.

# Весткі з Беларусі

**Чарнобыльскі шлях**

У адзінаццатую гадавіну катастрофы на Чарнобыльскай АЭС каля 10 тысяч жыхароў Менска ўдзельнічала ў „Чарнобыльскім шляху" — шэсці для ўшанавання памяці яе ахвяр, сарганізаваным беларускай апазіцыяй. Дэманстранты пад бел-чырвона-белымі сцягамі прайшлі праспектам Скарыны і сабраліся на мітынгу ля Палаца спорту. Сярод удзельнікаў шэсця былі між іншым Сямён Шарэцкі, Юры Хадыка, Лявон Баршчэўскі. Акцыя перамянілася ў пратэст супраць палітыкі інтэграцыі з Расеяй. Людзі скандзіравалі лозунгі „Незалежная Беларусь!" і „Далоў прэзідэнта Лукашэнку!". Сталічныя ўлады сарганізавалі таксама афіцыйныя святкаванні, у якіх удзельнічала пяцьсот чалавек. Непрыемным фактам для ўлад было тое, што нехта на электрычным слупе павесіў шар з карыкатурай Лукашэнкі.

**Некаторае неразуменне**

Першы намеснік старшыні Дзяржаўнай Думы Расеі Аляксандр Шохін выказаў шкадаванне аб рэзалюцыі Еўрапарламента наконт стварэння саюза Расеі і Беларусі. У лісце Шохіна кіраўніцтву Еўрапарламента адзначаецца, што дэпутаты ЕС выказалі некаторае неразуменне сутнасці развіцця двухбаковых расейска-беларускіх адносін. Віцэ-спікер Дзяржддумы падкрэсліў, што асаблівае шкадаванне выклікае спроба ЕС паставіць пад сумненне легітымны характар волі беларускага народа да заключэння дагавора.

**Праваахоўная канвенцыя**

У Менску некалькі дзесяткаў пазаўрадавых арганізацый заснавалі Беларускую канвенцыю абароны права, якая ставіць сабе за мэту абарону законнасці і правоў чалавека ў Беларусі і па-за яе межамі, а таксама збіранне, распрацоўванне і распаўсюджванне інфармацыі аб правапарушэннях з боку ўлад. Канвенцыю, якую ўзначаліла Таццяна Працька — старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта, стварылі 78 арганізацый, галоўным чынам дэмакратычных партый і рухаў. Створаны прэзідэнтам парламент Канвенцыя прызнала незаконным і заявіла, што прэзідэнт не мае маральнага права прадстаўляць Беларусь, паколькі ўжо звыш дваццаці разоў парушыў ён канстытуцыю.

**Лукашэнка ў Сеуле**

Прэзідэнты Аляксандр Лукашэнка і Кім Ен Сам падпісалі ў Сеуле заяву па выніках дзяржаўнага візіту прэзідэнта Беларусі ў Паўднёвую Карэю. Выказалі яны задавальненне падпісаннем кіраўнікамі міністэрстваў замежных спраў пагаднення аб заахвочванні і абароне інвестыцый, а таксама пратакола аб супрацоўніцтве паміж знешнепалітычнымі ведамствамі. Лідэры дзвюх дзяржаў згадзіліся з неабходнасцю паскорыць перамовы наконт заключэння пагаднення аб гандлёвым супрацоўніцтве, аб эканамічным і навукова-тэхнічным узаемадзеянні і пагаднення аб пазбяганні двайнога падаткаабкладання.

**Сакавіцкія цэны**

Паводле даных Міністэрства статыстыкі, індэкс цэн на харчовыя тавары ў сакавіку ў параўнанні з папярэднім месяцам склаў 102%. Амаль на 10% падаражала гародніна, прыкметна ўзрос кошт чаю і макаронных вырабаў адпаведна на 9% і 7,2%. Кошт хлеба, мясных кансерваў, кандытарскіх вырабаў і кавы павялічыўся на 4—5%, а каўбасы і рыбы — на 2—3%.

**Велікодная выстава**

Калекцыю велікодных яек, размаляваных у традыцыйным для Прынямоння стылі, можна ўбачыць на выстаўцы, якая адкрылася напярэдадні Пасхі ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі ў Гродне. Аўтар калекцыі — жыхарка Сапоцкіна Галіна Зайко. Ёсць у экспазіцыі калекцыя рэдкіх, выпушчаных у Расеі, Нямеччыне і Польшчы велікодных паштовак.

**Імпартны металалом**

Расейскія пастаўкі металалому для беларускага металургічнага завода ў Жлобіне складаюць больш за 60% ад патрэбаў прадпрыемства. З Расеі паступаюць таксама медзь, цынк, нікель, вогнетрывалыя матэрыялы. У сваю чаргу беларускія металургі забяспечваюць больш за палову неабходнага шынная прамысловасці Расеі металакордам.

# Няма людзей, то і няма нічога

Вёска Сукавічы распаложана нейкіх тры кіламетры за Шудзялавам. На вуліцы пуставата, на некаторых пляцах толькі прысаддзе асталося, а там, дзе стаяць хаты, панадворкі не надта пратаптаныя. Іду ў дом, у якім мае быць солтыс. Дома толькі пяцігадовае можа дзіця, якое не гаворыць, а на маё пытанне пра бацькоў паказвае толькі ручкаю на вакно. Выходжу і разглядаюся. З другога боку вуліцы, каля новага вялікага будынка для жывёлы, ходзіць маржнаваты нестары яшчэ мужчына. Падыходжу да яго і пытаю пра солтыса. Зараз будзе, адказвае, і праз хвіліну з аборы выходзіць мо трыццацігадовы мужчына. Занятага працай доўга не турбую; пытаю, ці многа яшчэ ў Сукавічах гаспадароў.

— Шэсць будзе, а рэшта *рэнцісты.*

— Такіх гаспадароў, як вы? — пытаю, маючы на думцы абрабляемую солтысам вялікатаварную гаспадарку.

— О! Такіх як я, то больш у нашай вёсцы няма.

— Калі вы пакуплялі свае машыны, — пытаю. — Пры камуне ці пазней?

— Усе пры камуне.

— „Бізон" таксама?

— Яго таксама яшчэ ўспеў, у 89-м годзе; пазней ужо не купіў бы.

— Вады ў вёсцы не маеце?

— Празывалі мы гэту справу, каб былі больш спрытныя, мелі б. А так, у Астравок ваду павялі; цяпер пра яе то нам няма што нават і думаць. Вось, каб на дарогу з Шудзялава ў Сукавічы жвіру навазіць, колькі мне трэба было да ваяводы папаездзіць!

Пытаю яшчэ пра старыя хаты. Раскінута ўжо пятнаццаць, восем пустых стаіць, заселеных яшчэ каля трыццаці...

* * *

Дарожны паказальнік, што ў Сукавічах дарогу ў Гаркавічы паказваць мае — адна іржа. Дарога — шырокая, нямнога гравію на ёй, раз'езджаная, даўно не бачыла рамонту. У Гаркавічах табліца з назвай вёскі — адна іржа. Вёска апусцелая, сляды жыцця на панадворках — мізэрныя. На парозе аднае хаты сядзіць мужчына гадоў пад сорак. Падыходжу да брамкі, паяўляецца і сабака, даволі злосны. Гаспадар заганяе яго ў сені, з хаты выходзіць бабуля. Мужчына адыходзіць, здаецца, намалоць мукі; жыве ён у горадзе, а да маці прыехаў, каб памагчы. Пытаю бабулю, чаму так пуста ў вёсцы.

— Сёння ўсе да споведзі ў Юраўляны паехалі; пачакайце, неўзабаве павінны вяртацца.

Пытаю пра дэмаграфію.

— Калісь Гаркавічы былі вялікай вёскай, але пасля вайны палова выехала. А цяпер толькі старыя тут жывуць. Сем хатаў пустых стаіць, у шасці толькі па адной асобе.

— Дзяцей у вёсцы многа?

— Няма зусім, толькі два хлопцы ды і тыя ў Саколцы вучацца. Калісь была тут школа, яшчэ не так даўно, можа нават пры Герку.

— І крамы няма?

— Няма. Раз у тыдзень, у сераду, самаход з Саколкі прыязджае; вось і цяпер выглядаю, але штосьці доўга няма.

— А як з хлебам: ён жа праз тыдзень учарсцвее...

— Ат, калі з хлебам, калі і без хлеба.

— Найбліжэйшыя крамы?

— У Шудзялаве і Крынках.

— Трымаюць людзі яшчэ нейкі дабытак?

— Куры, кароўку, свінні таксама.

— А зямлю чым абрабляюць?

— Трактарамі. Вось і ў мяне трактар стаіць, сын, як прыедзе, робіць.

— Куды малако здаюць?

— У Юраўляны; туды і ад нас возяць, і з Уснара, і з Грыбоўшчыны.

— То ў вашай вёсцы *злеўні* няма?

Няма. Няма людзей, то і няма нічога.

Гэтая сентэнцыя стала і падсумаваннем нашай гутаркі. Пралягла б дзяржаўная мяжа не на ўсход, а на захад ад вёскі — маглі б стаць Гаркавічы культавым калгасам: тут у 1913 г. нарадзіўся Сяргей Прытыцкі, які зрабіў, мабыць, самую бліскучую палітычную кар'еру з усіх сыноў Беласточчыны. Дзеяч КПЗБ, засуджаны санацыйным судом на смерць, якую пасля заменена на пажыццёвае зняволенне, пасля верасня 1939 г. працаваў у савецкіх партыйных і дзяржаўных установах, даходзячы аж да пасады старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Яго імя было калісь прысвоена м.інш. сакольскаму Заводу будаўнічай сталяркі; сёння пра гэта ціха. Ціхне і яго родная вёска; час-часом толькі запыхкаюць трактары, якія заводзяць, мусіць толькі каб яны не паржавелі, як мала каму патрэбныя тамашнія дарожныя знакі, гарадскія цяпер сыны гаркавічан.

* * *

У Юраўляны я ўжо не падаваўся. Даведаўся раней, што там няма ўжо беларусаў. Да вайны вёска была праваслаўная, але пасля вайны, калі правадзілі побач граніцу, усіх праваслаўных вывезлі ў СССР, а ў вёску пасяліліся палякі здалёк. Праваслаўныя там царква, бацюшка і яшчэ адна толькі сям'я.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота аўтара*



*Від на Гаркавічы.*

# У арлянскім ЗАГСе

Ужо сем гадоў у Арлянскай гміне не ўзнагароджваюцца сужонствы, якія адзначылі 50-годдзе з дня шлюбу. Пасля адыходу ў 1990 г. кіраўніка ЗАГСа (USC) Зінаіды Якімовіч на пенсію, войт не прыдаваў належнай увагі гэтаму пытанню і традыцыя арганізавання ўрачыстасцей прысваення медалёў „Za długoletnie pożycie małżeńskie" парвалася. Чаму ў гміне быў спынены гэты сімпатычны звычай запытаў я **Лідзію КУБАЕЎСКУЮ** — кіраўніка ЗАГСа ў Орлі.

— Закон аб узнагародах абавязвае ўвесь час, але пры мне наш ЗАГС папросту не падаваў заяў аб прысваенні медалёў парам, якія пражылі супольна больш за 50 гадоў. Не ведаю, як было ў іншых гмінах. Сёлета мы выслалі заявы на 31 пару з тэрыторыі ўсёй гміны. Пра людзей, якія былі прапушчаны ў мінулых гадах, нічога не ведаем. Заяўкі на прысваенне медалёў „Za długoletnie pożycie małżeńskie" гміна высылае ў Ваяводскую ўправу, якая адабрае іх і перадае ў Канцылярыю Прэзідэнта РП. Калі жыхары нашай гміны атрымаюць медалі, будзем іх уручаць, толькі яшчэ не ведаю якім чынам. Можа нават развязем іх па дамах.

Загадчыца ЗАГСа расказала яшчэ пра дэмаграфічную сітуацыю ў гміне:

— Агульны лік насельніцтва гміны падае і ў параўнанні з мінулым годам паменшыўся на 153 асобы. У гміне пражывае 4 068 жыхароў, з таго 1 039 у Орлі. Другой вялікай вёскай у гміне з'яўляюцца Кашалі (321 жыхар), найменшымі — Алекшы (21), Паўлінава (35) і Вулька (41).

Запытаў я яшчэ пра загсаўскую абраднасць:

— У 1996 г. наш ЗАГС даў толькі 13 шлюбаў. Пра царкоўны ці касцельны шлюб ні маладажоны, ні святары не абавязаны паведамляць ЗАГС. Калі ў маладажонаў ёсць ахвота ўзяць шлюб у ЗАГСе, ім трэба падаць заяву і пачакаць сама меней месяц і адзін дзень. У такой сітуацыі могуць быць пары, якія не маюць цывільнага шлюбу. А калі народзіцца ім дзіця, то запісваюць яго і няма праблемы. Дакладнай рэгістрацыі нованароджаных у нас няма. Нядаўна атрымалі мы пісьмо з Ваяводскай управы, у якім паведамляецца, што згодна з ухвалай Рады Міністраў № 7 ад 11 лютага 1997 г. папярэдняя ўхвала ў справе ўрачыстых форм рэгістрацыі актаў грамадзянскага стану прызнаецца неабавязваючай. Цяпер маладыя могуць прыйсці ў ЗАГС і проста распісацца, без урачыстасці. У гэтай справе будзе яшчэ нарада кіраўнікоў ЗАГСаў.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

# Ліст у рэдакцыю

**Дарагая „Ніва"!**

Zwracam się do Was z prośbą o udzielenie mi rady. Mój mąż Kozaczuk Wlodzimierz ur. w 1915 r. odbywał służbę wojskową w 1938 r. w Wojsku Polskim. Gdy w 1939 r. wybuchła wojna, walczył w obronie kraju. Był ranny w nogę, która była cieńsza i bolała mu przez całe życie. Po wojnie wrócił do domu. Nie pobierał dodatku ze ZBoWiDu. Po śmierci męża podpowiedzano mi, że mi się należy jako wdowie dodatek z tytułu, że mąż był kombatantem. Więc pojechałam do Bielska-Podlaskiego do RKU i tam dali mi zaświadczenie, które złożyłam w Nurcu Stacji do miejscowego ZBoWiDu. Ale ja zapytuję, czy mogę sie ubiegać o ten dodatek po męžu, ponieważ gdy był na rencie, to go nie pobierał, bo nie wiedział, że mu się należy. Podczas okupacji niemieckiej był w partyzantce. Był aresztowany przez Niemców. Zawieźli go do Wysokiego Litewskiego na rozstrzelanie, ale tam były rozbite tory, więc wzięli go do naprawy torów. Takim cudem jakoś uniknął rozstrzelania, ale został wywieziony do obozu w Ostródzie, gdzie był bity i maltretowany i 3 lata pracował na kolei. Po wojnie wrócił do domu do pustej chaty ze zniszczonym zdrowiem. Zmarł mając 64 lata. Pytam, czy mu się należała wojskowa renta i czy się należy odszkodowanie od Niemców

**Kozaczuk Maria**

Bielsk-Podlaski

**Ад рэдакцыі:**

Спадарыня Марыя!

У Вашай справе мы даведаліся, што можаце старацца пра „status wdowy po kombatancie". У сувязі з гэтым Вы павінны звярнуцца да:

Pełnomocnika Kierownika Urzędu do spraw Kombatantów i Osób Represjonowanych **Ignacego Maćkowiaka**

Яго адрас:

Urząd Wojewódzki w Białymstoku

15-085 Białystok

ul. Mickiewicza 3

Каб атрымаць правы, амаль такія самыя як ветэранскія, Вы павінны скласці:

1) wniosek — kwestionariusz dla wdowy;

2) odpis aktu małżeństwa lub jego kopii;

3) odpis aktu zgonu kombatanta;

4) legitymacja lub inny dokument potwierdzający prawo małżonka do praw kombatanckich;

5) dwie fotografie,

6) odcinek emerytury lub renty;

7) dobrze byłoby mieć dokumenty potwierdzające fakt represjonowania małżonka przez Niemców.

У справе кампенсацыі трэба пісаць на адрас:

Polsko-Niemiecka Fundacja „Pojednanie"

ul. Krucza 36

00-921 Warszawa 53

Там трэба прадставіць усё, што спаткала Вашага мужа і праўдападобна нейкія дакументы, якія пацвердзілі б праўдзівасць фактаў, пра якія пішаце.

# „Сняцца сны аб Беларусі...”

У мяне быў сон. Снілася мне Беларусь свабодная і незалежная. Людзі ў ёй былі такія шчаслівыя. Паўсюду чувадь было родную мову.

Была ранняя вясна, святочны дзень. Я хадзіла па вуліцах беларускага горада. На ўсіх будынках віселі бел-чырвона-белыя сцягі. Названні вуліц і іншыя надпісы на беларускай мове. У парку многа людзей, якія памалу ходзяць алейкамі, гавораць, смяюцца. Дзеці весела гуляюць. Я прысела на лаўцы. Насупраць мяне сядзела старэйшая жанчына, якая чытала газету. Я пабачыла дату: 25 сакавіка. Цераз некалькі хвілін да яе падышла другая жанчына. На яе словы „Здравствуйте, соседка” яна вельмі ўсхвалявалася і здзіўлена паглядзела на суседку. Тая збянтэжылася і пачала тлумачыць, што яна была за мяжою і толькі ўчора адтуль вярнулася. Першая жанчына сказала, што сорамна гаварыць у сябе на рускай мове.

Гэта была зусім іншая Беларусь. Відаць, што людзям жывецца добра. Існуюць самастойныя ўлады, дзейнічае парламент. Толькі дзяцей, якія не слухаюць бацькоў, страшаць: „Ты будзь спакойны, бо інакш Лукашэнка па цябе прыйдзе”. Бывае, што дзіця гаворыць: „Не прыйдзе, не прыйдзе. Ён ужо даўно ўцёк і баіцца вяртацца ў Беларусь. А як спрабуе, дык я яго праганю”.

На вуліцах спакой. Няма ніякіх дэманстрацый. Ніхто не сядзіць у турме за свае погляды. Ніхто не ўцякае за мяжу ад праследу. Выходзяць беларускія газеты і кніжкі. Тэлебачанне паказвае праграмы на беларускай мове. Усе згодна гавораць, што на рускай мове сорамна размаўляць, трэба на роднай.

Гэта быў цудоўны сон! Але калі я збудзілася рана і ўключыла тэлевізар, убачыла зусім іншую Беларусь: зняволеных людзей, бяду. Улады дзейнічаюць супраць народа, які з дзіцячай даверлівасцю выбраў сабе такога а не іншага прэзідэнта і такіх дэпутатаў.

Няма ў сучаснай Беларусі свабоды поглядаў. Кожную дэманстрацыю разганяе міліцыя. Многіх людзей праследуюць за погляды, арыштоўваюць, находзяць сем'і і дзеячаў апазіцыі. Многія вымушаны ўцякаць, каб ратаваць сваю свабоду, а можа нават жыццё. Нельга гаварыць нічога супраць прэзідэнта і яго палітыкі. Нельга выяўляць сваіх думак калі яны супярэчаць афіцыйнай лукашэнкаўскай прапагандзе.

Парламент у рэчаіснасці не існуе. Адзіная ўлада — гэта прэзідэнт, які паводзіць сябе як пан і ўладар усяго народа. Ён не бярэ пад увагу ні людзей, ні дзяржавы. У сваіх паводзінах ён мала адрозніваецца ад Гітлера ці Сталіна. Ахвярамі яго дзеянняў з'яўляюцца не толькі паасобныя дзеячы апазіцыі, але перад усім увесь народ. Думаю, што аб дзейнасці сучаснага беларускага дыктатара можна гаварыць як аб новай палітычнай сістэме — лукашызме, які сягоння з'яўляецца пагрозай толькі для Беларусі, але ніхто не ведае, ці не стане ён небяспечным для цэлай Еўропы. Мабыць, такую пагрозу бачаць некаторыя маскоўскія палітыкі, якія супрацьдзейнічаюць планам Лукашэнкі.

Тое што робіць Лукашэнка, для многіх, а асабліва для маладых людзей, паказваецца чымсьці дзіўным, ненатуральным. Гэта ж не адасобленае здарэнне ў гісторыі. Мы ўжо гэтага не помнім, або помнім зусім мала, але мы нарадзіліся ў падобнай сістэме. Гісторыя дае многія прыклады зняволення цэлага народа цераз аднаго чалавека, якога высокі пост пазбавіў лагічнага і сапраўднага гледжання на рэчаіснасць. Ён жыве ў зусім другім свеце, поўнасцю адарваны ад сапраўднага свету. Здаецца, што людзям хапіла ўрока, які даў Сталін і камунізм. Гэта магло чагосьці навучыць, але ці сапраўды навучыла? Хіба не, калі на нашых вачах паўтараецца амаль такая самая сітуацыя і калі людзі на гэтае дазволілі. Цяпер гэтыя людзі, якія „збудзілі дэмана”, не могуць яго абясшкодзіць. Многія нават не прабуюць. Можа яны проста любяць жыць у таталітарнай сістэме? Можа яны палерхваюцца свабодай? Што ж, простым людзям няважна, у якой дзяржаве яны жывуць, ці гэта свабода, ці няволя. Ім намнога важнейшы штодзённы быт. Новая сістэма, якая прыйшла з незалежнасцю, прынесла пагаршэнне ўмоў жыцця. Лепшыя гады яны спалучаюць з мінулай эпохай, значыць з Савецкім Саюзам, з аб'яднаннем з Расеяй. Толькі ніхто не верыць, што ў Расеі таксама былі змены. Гэтага ніхто ім не гаворыць, а напэўна не гаворыць гэтага прэзідэнт, якому такое думанне памагае дасцігнуць мэту сваёй палітыкі.

Чаму Лукашэнка так намагаецца за спалучэнне з Расеяй — цяжка адгадаць. Ніхто не ведае, што знаходзіцца ў яго планах. Можа ён гэтым спосабам хоча стаць прэзідэнтам дзяржавы, якая мае большае значэнне ў свеце чым Беларусь? А такой дзяржавай з'яўляецца Расейская Федэрацыя. Вядомым фактам з'яўляецца тое, што Лукашэнка хацеў стаць віцэ-прэзідэнтам аб'яднанай руска-беларускай дзяржавы. А можа сапраўды ён верыць, у сваёй дзіцячай наіўнасці, што аб'яднанне прынясе палепшэнне ўмоў жыцця для народа? Але ці ён увогуле думае аб народзе? У гэтае цяжка паверыць. Усё, што „беларускі” прэзідэнт рабіў да гэтай пары, было імкненнем умацаваць сваю ўладу. Нідзе не відаць клопатаў аб дзяржаве ці людзях.

У Беларусі праходзяць падзеі такія, якія праходзяць і ніхто не можа гэтага змяніць. Не памагаюць пратэсты амерыканскага і еўрапейскіх урадаў адносна парушэння правоў чалавека ў Беларусі. У Маскве ёсць працаўнікі аб'яднання. Сам прэзідэнт Ельцын супраціўся поўнаму спалучэнню і таму 2 сакавіка г.г. абедзве дзяржавы стварылі толькі унію. Гэта сведчыць аб тым, што Лукашэнка не дасцігнуў мэты сваёй палітыкі і можна быць пэўным таго, што надалей будзе ён змагацца за сапраўднае спалучэнне.

Нам, беларусам у Польшчы, нельга нічога зрабіць. Астаецца толькі верыць, што калісьці Беларусь будзе вольнай, свабоднай і незалежнай дзяржавай. Мы павінны шанаваць сваю беларускасць і не забываць аб ёй. Трэба яе захаваць для нашых нашчадкаў, для будучых пакаленняў і не аддаць забыццю. Калі загіне Беларусь як дзяржава, няхай прынамсі астанецца яна ў сэрцах людзей. Няхай кожны створыць сабе малую дзяржаву ў сям'і, няхай Беларусь жыве ў нашых душах!

**Катажына Аўсяйчук**

# Дапамажыце, землякі!

Мне, як і майму пакаленню, добра запамяталася камуна і геркаўскія часы. Ягоны кліч: „Таварышы, дапамажыце!” гуртаваў членаў партыі і беспартыйных вакол грамадскіх пачынаў. Будавалі тады дарогі, школы, святліцы, пажарныя дэпо, аўтобусныя і чыгуначныя прыпынкі. Як адзін чалавек ішлі людзі на прызыў свайго правадыра. Ішлі не пад прымусам, але па сваёй волі. Амаль у кожнай мясціне засталіся помнікі гэтых дзён. Засталіся на тое, каб адраджаючаяся дэмакратыя зараз магла іх разбураць.

Цяперашні кліч „Салідарнасці” і яе паклоннікаў „Прэч з камунай!” дазваляе звяр'яцелым дэмагогам разбураць плён грамадскай працы мнагалюдная сям'і добрасумленных грамадзян Рэчы Паспалітай.

Сумна робіцца чалавеку на душы гледзячы на такі вандалізм і анархію. Так, даражэнькія, вандалізм! Бо як жа інакш можна назваць разбурэнне чыгуначных прыпынкаў, абліванне фарбай грамадскіх устаноў ці замуроўванне жывых людзей у будынку? Гэтага не робяць звычайныя жулікі. Такія сцэнкі аглядалі мы ў гэтым годзе па тэлебачанні ў час масавых пратэстаў „Салідарнасці”, якая быццам бы выступала ў абароне гданьскіх суднабудаўнікоў.

Мне, як звычайнаму рабочаму (а цяпер пенсіянеру), былому члену партыі і нядаўняму салідарніку, надаела ўжо слухаць балбатні розных прамоўцаў. Добра зразумеў я за апошнія гады нашай „перабудовы” хто да чаго клоніць. Ці гэта будуць палітыкі левага лагера, ці правага (або „Салідарнасці”), усім ім патрэбна выгаднае і добраплатнае крэсла. Кожны з нас мог асабіста ў гэтым пераканацца ў час выбарчай кампаніі.

Што нам, выбаршчыкам, абяцалі кандыдаты ў паслы ці сенатары? Залатыя горы! Малочныя рэкі з кісельнымі берагамі! А што маем!

Найлепш аб гэтым пісаў мой калега Грыша Мароз, які дасканала намаляваў чытачам „Нівы” вобраз мітынгу і сустрэчу з цяперашнім прэм'ер-міністрам Уладзімежам Цімашэвічам (перад выбарамі быў кандыдатам) у яго роднай вёсцы Беразова. Тое ж самае мог бы я сказаць пра такую ж сустрэчу ў Чаромсе ці Кляшчэлях.

„Напэўна яшчэ да нас прыедзе”, — канстатаваў Грышын дзядуля. І я таксама паўтараю: „Пэўна прыедзе перад сяголетняй кампаніяй”. Паабяцае і паедзе зноў у сталіцу. А мы будзем наступныя чатыры гады выглядаць з мора пагоды, як кажа народная прымаўка.

Лідэры правых партый за ўсе няўдачы мінулай эпохі абвінавачваюць камуну і сваіх працаўнікаў з левага лагера. На маю думку, цяперашняя дэмакратыя ні ў чым не розніцца ад камуны. Эдвард Герэк калісьці заклікаў „Таварышы, дапамажыце!”, а цяпер старшыня „Салідарнасці” Мар'ян Кшаклеўскі прызывае грамадства каб куплялі „цагелкі”, якія быццам бы маюць ратаваць з крызісу гданьскую суднаверф. Ці гэта не адно і тое ж? Пры камуне будаваліся дарогі ў грамадскім пачыне, а зараз патрабуюцца ад нас не праца, але грошы.

У вёсках Чаромхаўскай гміны маем асфальтаваныя вуліцы. А хто іх будаваў? Мясцовы самаўрад наракае, што на гэтыя справы няма грошай, ды войт звяртаецца да людзей такім чынам: „Хочаце мець у хуткім часе прыгожую вуліцу, дакіньце свой грош да пабудовы”. Так было ў Кузаве, так было і ў вёсцы Чаромха. А тыя, хто непрыхільна аднёсся да прапановы гаспадара гміны, па сённяшні дзень маюць асфальтаваную дарогу да паловы вёскі.



*Грамадскі пачын у Саках Бельскай гміны — 13.04.1979 г.*

Нават у Беластоку справа не інакш мaецца. У мінулым годзе пісаў я аб гразкай вуліцы Яскулчай на Дайлідах. Зараз таксама нічога тут не змянілася. Як мне сказалі жыхары гэтай вуліцы, гарадскія чыноўнікі выступалі да іх з прапановай пабудовы новай вуліцы, аднак уладальнікі дамоў не згадзіліся на гэта. І дагэтуль корпаюцца ў гразевай твані. А ў навакольі вуліцы аж зіхацяць!

Пры камуне „панамі” з'яўляліся сакратары партыйных камітэтаў, вышэйшыя чыноўнікі дзяржаўных устаноў, начальнікі прадпрыемстваў. У сённяшняй дэмакратыі пануючай кастай з'яўляюцца начальнікі прыватызаваных супольак, бізнесмены і салідарнікія лідэры.

Адну толькі розніцу прыкмячаю: калі зарплата начальніка пры камуне была ў пяць разоў большая ад платы звычайнага чыноўніка, то ў дэмакратыі плата лідэраў, менеджэраў вырасла ў дзесяткі разоў. Як жа гэты звычайны рабочы можа зараз адгукнуцца на салідарніцкія заклікі купіць іхнюю „цагелку”. Пры камуне не гаварылася аб забастоўках, не было такога нішчэння грамадскай маёмасці. Зараз бастуючы салідарнікі дапамінаюцца за тое, што бяздзейнічалі або знішчалі грамадскую маёмасць, заплаты. Ці гэта мае быць справядлівасць? Некаторыя адзінкі нават адважваюцца выступаць з заклікам дапамагчы такім людзям. Ці гэта не дэмагогія?

Не заваюе сабе прыхільнікаў той, хто дэманструе сваю сілу перад слабейшым і той, хто бяздзейнічае. Рыначная эканоміка і выконванне законаў у дзяржаве права на гэта не дазваляюць. Варта аб гэтым памятаць.

**Уладзімір Сідарук**

*Фота з архіва*

# *Przeciwko marginalizacji*

*Białystok, 28.04.1997 r.*

*Szanowny Pan Ryszard Miazek*
*Prezes Zarządu TVP SA*

*Białorusini i wyznawcy Prawosławia na Białostocczyźnie z dużymi nadziejami oczekiwali na powstanie oddziału telewizji publicznej w Białymstoku. Dzięki współpracy naszego Związku oraz Zarządu TVP SA ponad dwa lata temu doszło do powstania pierwszych w dziejach Telewizji Polskiej audycji białoruskojęzycznych. 21 lutego 1996 r. Zarząd TVP SA otrzymał listy z podpisami dziesięciu tysięcy mieszkańców naszego regionu, którzy popierali postulat naszego Związku zmierzający do zwiększenia czasu emisji audycji białoruskojęzycznych i o tematyce prawosławnej na regionalnej antenie białostockiej. Tak się jednak nie stało.*

*Dyrekcja OTV Białystok odrzuciła projekt Związku Białoruskiego (popierany wcześniej przez byłego przewodniczącego Zarządu TVP Wiesława Walendziaka, wiceprezesa Janusza Daszczyńskiego oraz przewodniczącego KRRiTV Bolesława Sulika) postulujący powołanie redakcji białoruskiej i przydział adekwatnego do potrzeb i oczekiwań Białorusinów, obywateli polskich, okienek czasowych.* ***Dyrekcja Telewizji Białystok wybrała wariant marginalizacji problemu poprzez wepchnięcie audycji dla Białorusinów w ich ojczystym języku do jednego bloku z tematyką Polonii na Wschodzie (negatywną opinię na ten temat wyrazili członkowie sejmowej Komisji Mniejszości Narodowych i Etnicznych) i innymi mniejszościami narodowymi w naszym regionie.*** *Informuję przy tym, iż w zasięgu Telewizji Białystok zamieszkuje wg danych Ministerstwa Kultury i Sztuki RP ok. 250 tys. Białorusinów, i jest to zdecydowanie najliczniejsza grupa narodowa niepolska w tym regionie naszego kraju.*

*Jeszcze gorzej sytuacja przedstawia się w dziedzinie prezentacji problematyki prawosławnej. Mimo, iż „Ustawa z dnia 4 lipca 1991 r. o stosunku Państwa do Polskiego Autokefalicznego Kościoła Prawosławnego" stwierdza jednoznacznie, iż: „Kościół prawosławny ma prawo emitowania w państwowych środkach masowego przekazu nabożeństw w niedziele i święta prawosławne oraz swoich programów religijno-moralnych i kulturalnych", to dotychczas w ramówce TV Białystok nie znalazł się program poświęcony tej tematyce. Co gorsze jednak, za wyjątkiem codziennego programu informacyjnego „Obiektyw", problematyka białoruska i prawosławna jest ignorowana. Szczególnie dotyczy to Magazynu Kulturalnego, którego autorzy za wizytówkę regionu uznają muzykę disco polo, ignorując np. obecność na mapie kulturalnej regionu takie zjawiska kulturalne jak Międzynarodowy Festiwal Muzyki Cerkiewnej (zaliczany przez MKiS RP do imprez muzycznych klasy „0"). Podobnie rzecz się ma z dorobkiem całej rzeszy twórców kultury wywodzących się ze środowisk prawosławnych i białoruskich.*

*Dopełnieniem czary goryczy był* ***incydent z 27 kwietnia br.*** *W niedzielny świąteczny ranek (był to pierwszy dzień prawosławnych świąt Wielkiej Nocy, obchodzonych na Białostocczyźnie przez niemal połowę mieszkańców) Warszawski Ośrodek Telewizyjny emitował świąteczny program, zrealizowany w Policealnym Studium Ikonograficznym w Bielsku Podlaskim (jedynej tego typu szkole w Polsce!)* ***Telewizja Białystok, która korzysta z tego samego pasma „rozłącznej dwójki" co WOT, mało że nie przygotowała żadnego programu świątecznego dla swoich widzów, wyznawców prawosławia, to właśnie tej niedzieli, w tym samym czasie po raz pierwszy wyemitowała program ekologiczny... uniemożliwiając w ten sposób obejrzenie programu przygotowanego specjalnie na święta prawosławne.***

*Z przykrością dzielę się z Panem opinią naszego Związku, że TV Białystok systematycznie ignoruje obecność problematyki białoruskiej, a obecnie również prawosławnej. Dziwi to tym bardziej, że obecność naszej mniejszości w tym regionie była jednym z czynników, które zadecydowały o lokalizacji ostatniego ośrodka terenowego TVP w Białymstoku.*

*Mam nadzieję, że wybaczy mi Pan ostrość sformułowań, nie licujących z atmosferą świąt Wielkiej Nocy obchodzonych przez wyznawców Prawosławia w tych dniach (co zresztą zostało należycie dostrzeżone i zaprezentowane przez anteny centralne, i za co dziękuję) oraz to, że treść tego listu podaję do wiadomości publicznej. W sytuacji, gdy wszelkie racjonalne argumenty zawodzą, a dyrekcja TV Białystok nie odpowiada na nasze pisma, jestem do tego zmuszony.*

***Z poważaniem***
*Eugeniusz Wappa*
*przewodniczący*
*Związku Białoruskiego w RP*

# Спатканне з фальклорам

Упершыню я спаткалася з фальклорам у маленстве. Тады я не ведала, што буду спяваць песні сваіх бацькоў. Цяпер я сябра маладзёжнага калектыву „Чарамшына" ў Чаромсе. Наш гурт паўстаў у лістападзе 1993 г., а яго заснавальнікам была Барбара Кузуб. На пачатку свайго існавання калектыў складалі сем асоб, каб потым разрасціся да васемнаццаці. Пасля двухгадовай дзейнасці гурт устабілізаваўся і сёння налічвае адзінаццаць асоб.

Вакол Барбары Кузуб згуртаваліся маладыя людзі, якія хацелі проста іграць і спяваць. Яны вырашылі, што гэта будзе фальклорны гурт. Пачаліся рэпетыцыі і пошукі рэпертуару.

У снежні 1993 г. паступіла першая сур'ёзная прапанова ўдзельнічаць у Фестывалі народнай музыкі „Mikołajki folkowe" ў Любліне, першае спатканне з публікай і выдучэнне. У Любліне калектыў атрымаў запрашэнне на Фестываль музыкі інспіраванай польскім і чужым фальклорам у Радаме. Там у красавіку 1994 г. „Чарамшына" ўзяла III месца. Гэта пачало інспіраваць нас да далейшых пошукаў. З 1994 г. прымаем удзел у фестывалях беларускай песні. У гэтым жа годзе мы заваявалі II месца і апынуліся за „Маланкай" з Бельска-Падляшскага. У чэрвені 1996 г. мы выступалі ў Радымне каля Пярэмышля на Аглядзе артыстычнай дзейнасці маладых людзей памежных ваколіц, на якім узялі I месца. 15 жніўня 1996 г. „Чарамшына" была ў Плоцку на Міжнародным фестывалі „Euro-Folk '96" дзе заваявалі II узнагароду, якой мы вельмі цешымся і ганарымся. Пад канец жніўня 1996 г. мы мелі прыемнасць выступіць у якасці гасцей на Міжнародным фестывалі народных і этнічных меншасцей „Europa bez granic" у Легніцы. Калектыў выступіў таксама ў тэлебачанні ў перадачы „Swojskie klimaty".

„Чарамшына" бярэ за аснову сваёй дзейнасці беларускі, украінскі, польскі і лэмкаўскі фальклор. Рэпертуар нашага гурту вельмі багаты. У ім знаходзяцца песні нашых бабуль з ваколіц Чаромхі. Усе спевакі „Чарамшыны" вельмі любяць тое, што робяць, цяпер гэта частка іхняга жыцця. Гэта не толькі прыемнасць ад самога спявання, але і цяжкая праца. Акардэон, сапіўка, мандаліна, гітара, цымбалы, бубен і кантрабас — гэта інструменты, на якіх іграем. На розных выездах маем нагоду знаёміцца з вельмі цікавымі людзьмі і цікавымі месцамі. Гэта адна вялікая прыгода.

**Мар'ёля Мусюк**



# Новыя вершы

Барыс Руско

### Неба

Шукаю неба без зорак
і пякучай бездані,
цёплых позіркаў прагну
сярод холаду дня;
сярод клаксанаў зла
шукаю на зямлі:
добрых вестак,
між словамі прозы
шукаю неба,
каб перадаць вершам
хвіліну шчасця.

### Ад вучонага

Вось і жыццё маё.
Гару пяску
перасеяў,
каб знайсці
зерне праўды.
Жэмчуг на шыі
мёртвы,
жывы —
у кнізе,
на дне
акіяна
ведаў.
Бярыце, вучні,
маю працу
і карыстайцеся
ў імя плоднага
Розуму.

### Няволя

Вуліцы бягуць
як беглі,
і сонца свеціць
як свяціла,
а ночы
ўсё даўжэйшыя,
а думкі
ўсё больш мазольныя,
і гразнуць
ва ўласным свеце,
цесным,
як турэмная камера.
Усё быццам
на сваім месцы,
толькі чаму
маўчаць тыя,
каго,
застрашы ў цемры,
прашу аб дапамогу.

### Вонкавасць

Гляджу на свет
з усіх бакоў,
і ўсё
чагосьці не хапае,
і ўсё стаю
ў адным месцы.
Яўнае —
пад сургучом
з грыфам „Тайна".
Як трапіць
на след сэнсу
ў бездарожжы
існавання?
Як абняць свет?

### Цемра

Я
да канца
не пераканаһы
ў існаванні
крайнасцей.
Нават
у распаленым
гранічна святле
ёсць месца
на цемру.

### Святло

На дарозе,
па якой нясу багаж думак,
касыя праменні сонца.
Ёсць святло ласкаўшае:
грэе душу —
аж да пакоры
перад кожнай драбніцай
жыцця.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Пішуць школьнікі

## Дарагая рэдакцыя „Зоркі”!

Я — дзяўчына, якіх мільёны на свеце: вясёлая, кахаю жыццё і стараюся памагаць іншым. Не разумею сэнсу вайны, варожасці людзей, якой так многа зараз на свеце. Беларускую мову я вывучаю ад другога класа пачатковай школы. Спачатку я хадзіла на гэтую мову, бо так рабілі мае сяброўкі. Беларускай мовы я нават не любіла. Цяпер гэта змянілася. Я дарасла і зразумела больш спраў. **Я — полька.** Гэта мне не перашкаджае любіць беларускую мову, асабліва мову Беласточчыны бо з Беларуссю я не адчуваю сувязі. Думаю, што я не горшая ад палякаў у Варшаве ці Кракаве. Я нават... багацейшая. Багацейшая на „Беласточчыну — зямельку родную” і беларускую мову, якая з'яўляецца часткай мяне.

Хачу Вам напісаць некалькі маіх вершаў (прыемна сказаць, што я іх сама напісала, яны „мае”). Выбачайце мне мае памылкі, бо я маладая — мне 14 гадоў.

АГНЕШКА

### Кахаць жыццё

Ласкавы і клапатлівы твой твар,
Не спытаюся цябе.
Знаю, што поўна самых шчаслівых пар
У маёй галаве.

Часам мы знаходзімся далёка
Ад цэлага свету.
Бачыць гэта чулае вока —
Акно чалавека.

Устрывожаны ты спатканнем,
Сваім захапленнем,
Жыць — першае ў цябе жаданне,
Маляваць праменні.

### Цішыня

На рацэ ўжо цямнела
Шэрая постаць мая
Я захварэла, і змаркатнела
З жыццём я мінулася.

З каменя на камень я скочыла
Шчасця не пазнала
Вера і надзея прапалі
З усіх бакоў мне сілы мала.

Зусім глуха зрабілася
У цішы нясмела
Вада з вачэй палілася
Што ў жыцці я мела?

### Яно...

Чакаю на пясчаным узгорку
пасярод вялікага балота
не трачу надзеі, што ўбачу святло
але я чамусьці не асуджаю слова
маю ўпэўненасць, што ЯНО
пройдзе бокам.
Чаму? Можа таму, што ў людзей
чорнае сэрца
мінаюць усходы і захады
а я не магу пабачыць святла.

**Ад рэдакцыі:**

Прывітанне Агнешка! Пішаш, што ты дзяўчына, якіх мільёны на свеце. А мне здаецца, што ты — вялікая індывідуальнасць. Ужо ў першых радках тваёй творчасці адчуваецца подых таленту. Захапляе мяне твая пагоня за святлом і талерантнасць да мовы людзей, сярод якіх жывеш. Найбольш падабаецца мне твой белы верш. Але добра, што бярэшся і за верш класічны, бо гэта добрая трэніроўка ў пісанні вершаў.

З прыемнасцю друкуем твае вершы. Я маю надзею, што не будуць яны апошнімі. Напішы яшчэ нешта больш пра сябе.

Ганна КАНДРАЦЮК

## Я тут нарадзілася

Мая родная мясціна — гэта вёска Елянка. Невялікая яна, налічвае ўсяго 36 хат і распалажана на шляху Кляшчэлі — Гайнаўка. Елянка — адна з найменшых вёсак у гміне Дубічы-Царкоўныя.

На лік васьмідзесяці жыхароў тут толькі 12 гаспадароў. Апрача гаспадаркі людзі выплятаюць з саломы „каробкі”, аздобы з бярозы, напрыклад, „місачкі”, „збаночкі”. Летам у Елянку многа людзей прыязджае збіраць грыбы.

Вёску акружаюць лясы і палі. Найпрыгажэй выглядае яна зімой і вясною. Зімой краявід такі прыгожы, вёска аж бліпчыць ад белага снегу. А вясной у садах усё цвіце, зеляненоцца дрэвы.

У Елянцы вельмі мала моладзі. Усе ўцякаюць на работу ў горад.

Наша вёска ўжо адыходзіць ад цывілізацыі. Няма ў нас магазінаў, а тэлефон ёсць толькі ў двух жыхароў.

Тры разы ў год у Елянцы правіцца багаслужба. Дадаткова на трэці дзень Ражджаства Хрыстова і на Вялікдзень. Службы спраўляюцца таксама два разы — на Іаана Багаслова і на Варвару. Пяць гадоў таму людзі супольнымі сіламі пабудавалі невялікую капліцку. Стаіць яна цяпер на могілках, у лесе.

Хаця ў нас мала дзяцей, але нашы традыцыі не ўпадаюць. Унукі прыязджаюць да сваіх бабуль, дзядуляў на Ражджаство Хрыстова і Вялікдзень. На Ражджаство Хрыстова збіраюцца дзеці, дзеляцца на групы і калядуюць. Апрача дзяцей калядуе яшчэ старэйшая моладзь і старэйшыя жанчыны. Дзеці закалядаваныя грошы дзеляць між сабою, а старэйшыя аддаюць на царкву.

Мой дзед Ян Казімерук так вось успамінае даўнія часы, часы сваёй маладосці:

— Калісьці ў Елянцы было многа дзяцей, моладзі, старэйшых жанчын. Людзі не мелі столькі грошай, як цяпер. За калядаванне дзеці атрымоўвалі каўбасу, яблыкі, булку. Толькі старэйшым давалі грошы.

Вялікдзень таксама мае свае абрады. Рана, калі маці пакрасіць яйкі, усе дзеці збіраюцца на найбольшай горцы ў вёсцы. Там адбываюцца спаборніцтвы на найлепшае яйка.

Бывала, што адзін хлопец забярэ ўсе яйкі. Нясе такі задаволены выйгрышам, а той, што прайграе, то не толькі сумны, але і баіцца, што маці будзе крычаць, — успамінае Ян Казімерук.

Наша вёска малая і ўжо „памірае”. Але людзі, папраўдзе, хацелі б каб яна жыла. Нашы абрады, звычаі і сардэчнасць сярод людзей заўсёды астануцца. Можа я і выеду адсюль але заўсёды буду прыязджаць сюды. І толькі тут хацела б дажываць жыццё і памерці.

**Барбара КАЗІМЕРУК**
**вуч. VII класа**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**

*Юныя акцёры з Дубіч-Царкоўных. Аўтарка тэксту „Я тут нарадзілася” стаіць трэцяя справа, побач настаўніцы беларускай мовы Галіна Трашчотка.* Фота Г. КАНДРАЦЮК

## Дай тое, што ў цябе няведама

*(беларуская чарадзейная казка)*

Жыў-быў адзін чалавек. Не было ў яго дзяцей. Паехаў ён аднойчы на базар збожжа прадаваць. У зваротнай дарозе ноч яго дагнала. Рашыў чалавек заначаваць у старога дзедкі, што жыў каля возера. Раніцай устаў, глядзіць — навокал вада, а на лодцы той дзядок плавае.

— Ратуйце! — пачаў крычаць чалавек.

— Я цябе, брат, даўно адратаваў бы, але дарма не магу. Дай тое, што ў цябе няведама!

— Ну, што я яму дам, у мяне нічога такога няма, — думаў чалавек. — Адна жонка дома, ды і тая сварлівая.

— Добра, бяры, — махнуў рукой чалавек. І раптам вада ў зямлю ўвайшла, і стала ўсё як перад патопам было. Чалавек заехаў у хату, людзі яго сустракаюць.

— Што новае? — пытае здзіўлены чалавек.

— Што новае? Жонка твая сына нарадзіла, — смяюцца суседзі.

Чалавек ад гэтае навіны на зямлю ўпаў. Зараз усё зразумеў і горка заплакаў.

Ішлі гады... Хлопчык з дня на дзень рос. У дванцаць гадоў, як стаў добрым малайцом, бацькам сказаў:

— Пайду, сваёй долі пашукаю.

Стары бацька нічога не адказаў, толькі засумаваў і заплакаў. „Відаць, той дзядок яго да сябе ўжо заве”, — падумаў.

Пайшоў сын у белы свет. Ішоў ён доўга ці коратка, да краю вялікага возера падышоў. Лёг пад кустом адпачываць, аж бачыць, дванаццаць качак прыляцела. Стукнуліся яны аб зямлю і прыгожымі дзеўкамі зрабіліся. Раздзеліся прыгажуні і пайшлі на возера купацца. А хлопец падпоўз да таго месца, дзе ляжала вопратка і схаваў сукенку найпрыгажэйшай дзяўчыны-качкі. Зноў за той куст схаваўся і думае, што будзе далей. Тыя дзяўчаты пакупаліся, выйшлі на бераг, смяюцца, жартуюць. Сталі адзенне апранаць...

— Ой, божачкі! — загаласіла найпрыгажэйшая паненка. — Як жа мне з вамі ляцець? Як жа я голая перад бацькам у яго палацы стану? — плакала і наракала. — Каб той злодзей сукенку мне аддаў, — сказала яна, — я для яго ўсё зрабіла б. Нават за яго замуж пайшла б.

Пачуў гэтыя словы хлопец, выйшаў з-за куста і аддаў сукенку. Узяла дзяўчына хлопца за руку і павяла ў ваду.

— Не бойся, — сказала, — я дачка вадзянога цара. У возеры будзе іншы свет. Там замак вадзянога цара, там вадзяное каралеўства.

Пайшлі тады маладыя благаславенства ў цара прасіць.

— Мой бацька суровы, будзе табе цяжкія задачы ставіць. Але ты не лякайся, я табе дапамагу, — павучала хлопца дзяўчына.

І пайшла яна да бацькі, навіну гаварыць.

# Крыжаванкі № 19

*Даслала Кася Леанюк, ПШ н-р 6 у Гайнаўцы, кл. VI „ц"*




| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Panorama | | Rura | Twarz konia | |
| Ptak | | | | |
| | | | Dar | |
| Nuda | | | | |
| | | | Nie-wolnik | |
| Rzeka | | | | |
| Język | | Kawa | | Ar |
| Pożar | | | | |
| | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванкі з н-ра 15:**
Лозунг: **заяц.**

**Польска-беларуская крыжаванка:** ключ, сват, ара, кмен, язык, ежа, раса, хала, смех, вежа, банал, яр, лаза, юрыст, чакан.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Ева Зубрыцкая** з Нарвы, **Аліна Анапюк** з Ласінкі, **Анеля Вашчанка** са Старога Беразова, **Дарота Юшчук** з Хітрай, **Мар'юш Янушкевіч** з Нарвы, **Кася Куптэль** з Махнатага.

**Набор каляровых аўтаручак** (cienkopisów) атрымаюць: **Анна Раманюк** з Новага Корніна, **Аня Шарэйка** з Нарвы, **Адам Ярмоцік** з Дубін.

## *Вершы Віктара Шведа*

### Нясвежая газета

З гарадскога кіёска
Дзедка прывёз у вёску
Тыднёвік „Ніву" з „Зоркай"
І ў рукі даў Ягорку.
Пах востры фарбы з друку
Казыча ў носе ўнуку.
І ён азваўся гэтак:
— Нясвежая газета.

### Адкуль я, мама, узялася?

Спыталася матулю Кася:
— Адкуль я, мама, узялася?
Мама сказала доні мілай:
— Цябе я, доня, нарадзіла.
— Скуль жа ўзялася ты, матуля?
— Нарадзіла мяне бабуля.
— Хто ж брата нарадзіў, Адама,
Мая бабуля, ці ты, мама?

### Ці ты таксама траўку ела?

Летам унучка была ў вёсцы,
Пасвіла кароў на палосцы.
А потым бачыла Людміла
Бабуля тых кароў даіла.
І бачыла зноў праз хвіліну
Цётка грудзьмі карміла сына.
Цётку спыталася нясмела:
— Ці ты таксама траўку ела?


*Другакласнікі з Кнарыд.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

— Ты хочаш за чалавечага сына замуж ісці? — засмяяўся вадзяны цар.

Успомніў ён сваю сустрэчу з чалавекам, як вадой небараку напужаў і сына нованароджанага як „няведамае" старгаваў.

— Вядзі яго сюды, — сказаў дачцэ. — Дам твайму нарачонаму тры задачы. Калі іх не выканае, галаву яму адсяку!

— Ну што ж, давай тыя задачы, — кажа хлопец. — Буду выконваць.

Засмяяўся голасна вадзяны цар.

— Добра, бачыш — вунь сажалка з вадой. Бяры напарстак і да заўтра ўсю ваду вылій. А дно жоўтым пяском пасып.

Узяў хлопец напарстак і зажурыўся.

— Не то за ноч, але і за сто гадоў гэтым напарсткам вады не выльеш.

Пачаў ён ваду ліць і на долю сваю наракаць.

— Сядзь, аддыхні, — сказала яму дзеўка-прыгажуня. Узяла яна напарстак, чэрпанула тры разы. Уся вада высахла і дно жоўтым пяском пасыпала.

Прыйшоў раніцай хлопец да цара і кажа.

— Ваша задача здзейснілася.

— Пайшлі глядзець!

Глядзіць вадзяны цар і думае: „Такі чараўнік, быццам сын мой, з гэтага дзецюка вырас".

— Ну, адна работа зроблена, цяпер будзе другая, — кажа цар. — Бачыш лес? Да заўтра каб высечаны быў, парэзаны і зложаны ў метры. Калі не зробіш, галаву табе адсяку.

Засумаваў хлопец. „Як столькі лесу за дзень высячы?" — разважае ён. Узяўся за работу і пра смерць сваю падумаў.

— Кідай, не сячы, не мазалі рук, сядзь, пасядзі, — сказала дачка цара. Выняла яна насавую хустачку з кішэні, махнула тры разы і ўвесь лес высечаны, зложаны ў метры. Раніцай кажа жаніху:

— Ідзі да бацькі, скажы, што ўсё зроблена.

Прыйшоў цар, работа добра зроблена, метры роўна ляжаць.

— Дзве задачы выпаўніў. Цяпер яшчэ адну дам, каб да раніцы паспеў! Спалі ўсе дровы і сукі, попел увесь у адну кучу зграбі.

„Тут ужо і яго дачка не паможа", — падумаў хлопец. Але не было выхаду. Пачаў дровы паліць. Прыйшла царэўна і пытае якая задача.

— Вялікая задача, — засумаваў хлопец, — цяпер ужо канец будзе.

— Не бядуй чалавеча, ідзі і аддыхні сабе, — сказала царэўна і зноў махнула насавой хустачкай тры разы і задача была зроблена.

Раніцай прыйшоў цар і здагадаўся, што дачка памагала.

— Цяпер можам вас пажаніць, — засмяяўся вадзяны ўладар.

І пачалі да вяселля строіцца, каравай пячы, вопратку шыць, пакоі прыбіраць. Вечарам царэўна гаворыць хлопцу:

— Нам уцякаць трэба. Мой бацька хоча нас павянчаць, а пазней забіць. Цябе, бо твой бацька даўно душу тваю старгаваў, а мяне, бо зразумеў, што я табе задачы выконвала.

Узялі яны каня і паімчаліся да хлопцавых бацькоў. Раніцай слугі пайшлі маладых будзіць, а іх няма. Давай цар пагоню за маладымі пасылаць. І сам схапіў меч, сеў на каня і кінуўся ў пагоню. Гналі і ледзь не дагналі. Толькі вадзяны цар хацеў ударыць мячом, як хлопец з дзяўчынай праз ваду на бераг выскачылі. А далей, вядома, як у людзей было.

**Апрацавала Зорка**

**Талон „Зоркі" № 19**
**11.05.1997**

# У арлянскіх паштавікоў

**Пошта — установа, паслугамі якой прыходзіцца карыстацца кожнаму чалавеку. Яе значэнне асабліва адчуваюць жыхары вёсак, аддаленых ад гарадскіх цэнтраў. З цягам часу мяняліся ўмовы працы пошты і род паслуг. Чым займалася калісь і што прапануе сваім кліентам цяпер пошта ў Орлі расказваюць яе шматгадовыя працаўнікі.**

— Працаваць пісьманосцам пачаў я ў лютым 1956 года, — успамінае 61-гадовы пенсіянер **Мікалай ЛОПУХ** з Орлі. — Тады паштовая ўстанова змяшчалася ў старым будынку па вул. Бельскай. Кожны пісьманосец абслугоўваў свой раён. Мне належалі палова Орлі, Крыватычы, Шчыты (абедзве вёскі і калёніі), Міклашы, Парцава, Спічкі і Вулька. Па вёсках хадзіў я спачатку пешшу, пазней ездзіў на ровары, затым на мапедзе, а зімою даводзілася дабірацца нават на лыжах. Работы тады было хоць адбаўляй. Саміх газет трэба было ў дзень разнесці 750 экземпляраў, у тым ліку 300 штук „Gazety Białostockiej". Улады тады дбалі пра распаўсюджванне друку і палітычную асвету сялян. Насілі мы таксама сялянам грошы за малако, пенсіі — спачатку пенсіянераў па вёсках было мала, масава яны з'явіліся толькі ў 80-х гадах. Многа было службовай карэспандэнцыі ад гмінных устаноў — усялякія паведамленні і павесткі сялянам, напаміны і павучэнні грамадзянам, якія нетэрмінова выконвалі распараджэнні улад. Апрача таго пісьманосец прадаваў паштовыя маркі, забіраў утарганыя грошы з вясковых крамаў, прымаў узносы на ашчадныя кніжачкі ПКО. У адну паштальёнскую сумку прэса і карэспандэнцыя не змяшчаліся і тады даводзілася выязджаць у вёскі два разы ў дзень. Штодзённа трэба было разнесці 30-50 кг усялякай пошты.



*Пісьманосцам намячаўся план падпіскі на газеты, за выкананне якога атрымоўвалі яны ўзнагароды. У 60-х гадах Мікалай Лопух (на здымку) неаднойчы заваёўваў першае месца і званне найлепшага паштальёна ў раёне Бельск-Падляскі. У 1973 г. заняў ён першае месца ў ваяводстве на падпісцы „Gazety Białostockiej". Мікалай Лопух прафесійную працу ўмела спалучаў з грамадска-культурнай дзейнасцю. Звыш сарака гадоў спяваў ён у арлянскім фальклорным калектыве, прымаў удзел у конкурсах беларускай песні. Да адыходу на пенсію ў 1991 г. адзначаўся ён многімі ведамаснымі і дзяржаўнымі ганаровымі граматамі, адзнакамі і медалямі.*

А я працаваў пісьманосцам 28 гадоў і толькі тры дні не хадзіў на работу з-за хваробы, — успамінае 71-гадовы пенсіянер **Васіль ОРДА** з Міклашоў. — У водпуску таксама ніколі не быў, хаця прапанавалі. У 50-х гадах прыехала на пошту агітатарка і загадала павялічыць падпіску „Gazety Białostockiej". Спярша мы настойліва прапагандавалі падпіску, а потым сяляне самі сталі падпісвацца не толькі на штодзёнку, але і на сельскагаспадарчыя часопісы. Спачатку вызначылі пісьманосцам вялікія раёны, нават з 15 вёсак, і немагчыма было іх тэрмінова абслужыць. Тады карэспандэнцыю аддавалася солтысу, а ён ужо размяркоўваў яе паміж жыхароў. Потым стала лягчэй працаваць, бо зменшылі раёны і давалі на раты адзін ровар на год. А зімой вазіў я пошту канём. Людзі калісьці шанавалі пісьманосца, чакалі яго, асабліва тады, калі прыносіў грошы за малако. А цяпер стаяць яны пад банкам і дапытваюцца, калі будуць ім плаціць...



*Васіль Орда (1952 г.)*

— Пачала я працаваць на пошце 10 ліпеня 1956 г, спачатку тэлефаністкай у Гайнаўцы і Бельску, — расказвае **Антаніна РАГОЗА**, начальнік пошты ў Орлі. — З 1967 г. я працую ў Орлі, а з верасня 1980 г. стала кіраўніком паштовай установы ўжо ў новым будынку. Два гады таму правялі мы рамонт будынка і цяпер ён поўнасцю прыстасаваны для патрэб нашых кліентаў. У Польшчы многа мясцовасцей і вуліц мае ў назве слова Орля і па гэтай прычыне памылкова прыходзіць да нас многа не нашай карэспандэнцыі, якую трэба адсылаць назад (напрыклад, у Беласток — Pogotowie Opiekuńcze. ul. Orla 21). Апрача асноўных паштовых паслуг займаемся таксама маркетынгам, гэта значыць, прадаем касметыку, бытавую хімію, кніжкі, папяросы і т.п. Да таго нашы пісьманосцы абавязаны два разы ў тыдзень наведваць у сваіх раёнах інвалідаў і пытацца, якія тавары прынесці ім дадому. У далейшым выплачваем пенсіі, прымаем падпіску на прэсу. Тут трэба адзначыць, што пасля падзення ліку падпісчыкаў у канцы 80-х гадоў, узровень падпіскі на працягу апошніх пяці гадоў усталяваўся і трымаецца на адным узроўні, на жаль, вельмі нізкім. Людзі таксама мала пішуць лістоў, зусім не пасылаюць тэлеграмаў, але затое высылаюць адкрыткі — святочныя, іграючыя — найчасцей у канвертах. Наш паштовы калектыў складаюць добрасумленныя, дысцыплінаваныя людзі і таму няма скарг з боку кліентаў, а працаўнікі атрымоўваюць ведамасныя ўзнагароды.

**Міхал Мінцэвіч**

**11 красавіка ў беластоцкай галерэі „Маршанд" запрошаныя госці агледзелі „Умбрыйскую" выставу, якая не толькі каля Умбрыі нават блізка не была, але наогул не даехала да Італіі.**

# Умбрыйская адысея

Ого-го! Кожны хацеў бы праехацца ў сонечную Італію. Калі ж гэта ў нас яшчэ будзе цёпла... Альбо прынамсі падкінуць некалькі карцін у тую Перуджыю, з якой супрацоўнічае Беласток: а мо́жа нехта штосьці купіць...

Вядома, як цяжка сёння жывецца мастакам: незалежна ад таго, добры ён ці слабейшы. Прадпрыемствы, дзяржаўныя вядома, лішніх грошай не маюць, глядзяць, каб было хаця чым заплаціць людзям за працу. Куды ўжо там сёння да ўпрыгожванняў, транспарантаў, стэндаў, плакатаў, калі не ўсюды нават за стаж працы плацяць.

Ну, купіць часам пару карцін нейкі прыватны банк, але як купляе, дык і то рука ў гаспадара дрыжыць: прыватны прадпрымальнік з кожным грашом лічыцца.

Як ні круці, бяда прыйшла ў храм мастацтва: хто на карцінах знаецца і для каго былі б яны неадлучным атрыбутам жыцця, той сёння грашом не смярдзіць, а хто мае вялікія грошы — яму і без карцін добра. І так вісяць яны, бедныя, у мастацкіх салонах, аднак дачакацца свайго дабрадзея-купца можа толькі адносна танная драбніца.

Ідучы 11 красавіка ў галерэю „Маршанд" на вернісаж „Умбрыйскай выставы", — хто запрошаны спецыяльным запрашэннем, хто — па закліку вялікага транспаранта, расцягнутага ад галерэі ў бок скве-ра, — некаторыя цешыліся, што хоць іншаму пашанцавала, другія ж — і была іх значная большасць — зайздросцілі: нябось пашанцавала яму, а не мне...

А зайздросціць, уласна кажучы, і не было чаго.

У рамках абмену між Беласточчынай і італьянскай Умбрыяй, на маючым адбыцца ў горадзе Перуджыі сельскагаспадарча-прамысловым кірмашы нашы землякі збіраліся запрэзентаваць свае культурныя дасягненні: беластоцкі жывапіс і разьбу, дзвюхасноўвавыя янаўска-сакольскія тканіны, на здымках — беластоцкі пейзаж, зняты Віктарам Волкавым, ды старое драўлянае будаўніцтва: млыны, ветракі і г.д., а таксама сярэбраныя вырабы з „Polsrebra" і дываны (вядома, дробныя) з „Agnelli".

Прадстаўнікоў культуры было пяцёра: старшыня ЗПАП Кшыштаф Ставецкі, камісар выставкі Ежы Ленгевіч, этнограф з Акруговага музея Войцех Кавальчук, Ваяводскі захавальнік помнікаў гісторыі Антоні Аляксіцкі, ну, і дырэктар Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы Казімеж Дэркоўскі, ад якога мо варта было пачаць.

Ага, былі ж яшчэ гандлёўцы, спецыялісты ад гарэлкі з „Polmosu", фахоўцы па мясных вырабах з Беластоцкага мясакамбіната, а прадстаўнікі ПССа везлі ў Італію скаштаваць нашага хлеба і банкухэнаў.

Неяк усе яны змясціліся разам са сваімі вырабамі ды мастакамі з іх карцінамі і рэзьбамі ў адным-адносенькім аўтобусе. У цеснаце ды не ў абідзе, думалася ім пры такіх смакавітых рэчах. Экскурсія хоць куды!

У Чэхію карціны і рэзьбы прапусцілі. „Усё, значыцца, у парадку!" — аж ёкнула ў сэрцы камісара. Кожны з амаль дваццаці аўтараў устанавіў цану на амаль пяцьдзесят прац, цана вагалася ад чатырохсот да паўтары тысячы долараў (што гэта як на заробкі італьянцаў, а тут чалавек хоць пажыў бы!), а пасля арганізатары паездкі нешта афармлялі з мытнікамі на вуліцы Таварнай у Беластоку і заплацілі там маніпуляцыйныя кошты.

Мо думалі, што гэта ўсё і можна ехаць, бо ніхто не сказаў ім, што трэба яшчэ нешта аформіць у КІГ *(Krajowa Izba Handlowa)* у Варшаве. Там даюць спецыяльныя купоны, якія мытнікі адрываюць на кожнай граніцы. Калі хто карціну за мяжой прадасць, тады, вяртаючыся, мусіў бы плаціць мыта.

Так, мо сапраўды нашы падарожнікі не ведалі, як афармляюцца гэткія справы, а мо паціху разлічвалі, што ў такой знакамітай кампаніі можна правезці ўсё.

Факт-фактам, аўтобус не спадабаўся славакам. У незалежнай краіне мытнікі дзейнічаюць незалежна. Мо каб у аўтобусе былі толькі мастацкія творы, яны б іх прапусцілі. Але калі яны адчынілі багажнікі, то ўбачылі мноства пачак, пачачак, каробак, сокаў, бочачку піва. Усё было завалена. Было гэтага вельмі многа і ўсё ляжала разам.

Ну, і славакі на чэшска-славацкай граніцы ўперліся: за карціны і рэзьбы — дваццаць тры тысячы долараў каўцыі і ні граша менш! Колькі папераў, пісьмаў — польскіх і італьянскіх — не совалі падарожнікі ім пад нос — нічога. Культурны „pion" аўтобуса апанаваў жах. Адкуль жа ім, мастакам, узяць такія грошы?! Праўда, не зусім ясна было, чаму менавіта славакам мусілі б яны плаціць мыта ў выпадку продажу карцін, а не скажам, палякам ці італьянцам, але ці ж са славакамі станеш спрачацца?.. Каўцыя — або назад.

Што было рабіць? Усёй той вясёлай кампаніяй, на тым жа адзіным аўтобусе паехалі назад, у Цешын. Там добра пераначавалі, а карціны і рэзьбы здалі на перахаванне ў музей.

Каб мелі нашы мастакі кагосьці ў Італіі, хто мог бы за іх заплаціць тую няшчасную каўцыю, то ўсё было б у парадку. Але яны такіх людзей не мелі. І таму без карцін паехалі ў Перуджыю.

Ну, нічога. Затое віна там папілі. Танна! Двухлітровая бутэлька чырвонага паўсухога — два долары. А ў нас? Ці ж за такія грошы нешта купіш...

**Ада Чачуга**

P.S. На вернісажы піцца і закускі не бракавала. Добра, што хоць не казалі, быццам віно таксама было „умбрыйскае"... **А. Ч.**

# Падвойнае пахаванне

Яшчэ хістаўся. Яшчэ прабаваў перасейваць мінулае, шукаючы ў ім самага вартаснага, самага прыгожага. Калі б так можна было жыць назад... Магчыма яшчэ б і задумаўся, спыніўся напаўдарозе. Не было яшчэ позна. Аднак балела найбліжэйшае, тое, што было вось тут-тут. У вачах стаяла тая сакавіцкая раніца, калі наваколле рыхтавалася сустракаць новае жыццё.

Нядзельны ранішні спакой спалохаў настойлівы стук у дзверы. Глянуў у візір і адразу ткнула яго нешта нядобрае. Дзіўны мярцвечы холад паказытаў душу. Адразу падумаў пра Галінку. Гэта ж ужо трэція суткі, як выйшла з хаты. Бывала, што не вярталася і даўжэй, але ён, Кастусь, тады ведаў дзе яго Галінка. Хваляваўся за сваю дачку. Толькі надзеі ўскладаў... Лічыў на спакойную старасць. Як жа часта, спазіраючы ў акно, уяўляў сябе ў адным з беластоцкіх паркаў са шчабечучымі ўнучанятамі. І тут успомніў, што ўжо ад нейкага часу Галінка не гаварыла яму нават калі вернецца. Проста падыходзіла, цалавала ў лоб, гладзіла па сівой галаве і са словамі „не хвалюйся" замыкала дзверы. Чуў як хутка збягала па ўсходах, потым стукалі дзверы на лесвічную клетку і заціхаў стук дробных крокаў.

А тады яго ткнула так, як і цяпер, калі праз візір убачыў выкрыўленыя постаці двух паліцыянтаў. Кажуць, што душа прадчувае няшчасце і неяк дзіўна палахліва трапеча. Кастусь добра памятаў той тэлефон. Нават званок звінеў неяк варожа. Быў вечар. Інстынктыўна падняў тэлефонную трубку ў сваім пакоі. Чуў цэлую размову.

— Ты сёння ў форме? Ну, ведаеш пра што гавару? Чыстая?

— Нармальна! Рыхтавацца?

— Маеш на дзве гадзіны немца, а потым нейкі рускі бізнесмен. Зараз прыедзем.

Кастусь не верыў сваім вушам. Галінка? Яго каханая дачушка? Не тое, што сын набабнік на ўсю ваколіцу, даўно рукою махнуў. Ды хлопцу яно неяк і да твару. Але каб яго ўласная дачка гандлявала сваім целам...

— Не пушчу! — крыкнуў стоячы ў дзвярах, калі Галінка рыхтавалася да выхаду. — Не ідзі туды! — маліў са слязамі ў вачах і падаў на калені.

Але яна па-ранейшаму пацалавала яго ў лоб, пагладзіла сівыя валасы і сказала:

— Не хвалюйся!

Чуў як праз нейкі час забурчэў матор і з піскам колаў ад'ехала машына.

Рашучы стук у дзверы абарваў яго цяжарныя сумам роздумы. Адчыніў.

— Канстанцін Рыбак? — спыталі прафесіянальна. — Галіна — гэта дачка?

— Так!

Чуў як не хапае паветра і робіцца душна. Перад вачыма паплылі жоўтыя плямы. Трымаючыся сцяны і апіраючыся на паліцыянта ішоў памалу ў гасцінны пакой. З уздыхам асунуўся ў фатэль і расшпіліў каўнер фланэльнай кашулі.

— Што з Галінкай? — хапаў паветра, як выкінутая на бераг рыба. — Што з маёй дачкою? — паўтараў.

— Можа лекара? Дрэнна сябе адчуваеце? — пытаў паліцыянт.

— Нічога, нічога. Зараз міне, — гаварыў, кладучы пад язык таблетку. — Скажыце толькі, што з дачкою? Дзе яна?

— Трэба вам паехаць з намі пацвердзіць тоеснасць цела.

Кастусь быццам бы супакоіўся. Даведаўся, што здарылася тое, чаго так моцна баяўся, чакаючы цэлымі начамі на дачку. Жонка... Некалькі разоў стараўся паразмаўляць з Марыляй, але нічога з гэтага не атрымлівалася. Праўда, жылі яны ў адной хаце, але хутчэй побач сябе чым з сабою. Пасля нараджэння дзяцей на пальцах можна палічыць колькі разоў былі яны з сабою.

Паліцыйная машына ехала ў напрамку гарадскога морга. Кастусь памятаў, што адчыніў ім нейкі пан у белым халаце, ад якога заехала перагарам ліхога алкаголю. Потым доўга ўзіраўся ў паперы, што падаў яму адзін з паліцыянтаў.

— Аааа... Гэта тая згвалтаваная, нібы запытаў, нібы сцвердзіў.

— Ідзем? — кінуў нядбайна і пайшоў у глыб калідора. Потым адчыніў дзверы ў пакой. — Тут! — сказаў, бліснуўшы нейкае сіняватае святло. Падышлі да аднаго з прыкрытых белым палатном целаў. Праверыў прычэпленую да пальца нагі ідэнтыфікацыйную картачку. — Згаджаецца, — і прыадкрыў галаву.

Кастусь убачыў бледны, пасінячаны твар дачкі. На шыі, там дзе некалі біла жыватворная артэрыя, віднелася глыбокая рана.

— Так, гэта яна. Як яно ўсё здарылася? Скажыце, як гэта было?

Кастусь глытаў слёзы, якія камяком душылі ў горле. Але не плакаў. Стаяў нейкі скамячаны, застылы ў сабе.

— Гвалт. Шматкратны, брутальны калектыўны гвалт, — сказаў паліцыянт. — Ведаеце ў якім асяроддзі бывала ваша дачка? З кім сябравала, сустракалася?

Задумаўся.

— Не, нічога і ніколі не ўспамінала пра сваіх знаёмых. Значыць, забілі... Хто?

Нічога яшчэ канкрэтнага не вядома. Для дабра справы нельга пакуль што нічога выяўляць. А вы, Рыбак, да канца следства не можаце выязджаць з горада!

— Я ў вогуле не намераны пакідаць хату, — сказаў Кастусь нібы да сябе, нібы да ведама іншых.

Калі можна забраць цела?

Заўтра.

У хаце было дзікавата пуста. Сын яшчэ нічога пра няшчасце не ведаў. Сядзеў на сваёй цёплай пасадцы ў Варшаве і да бацькі звяртаўся толькі за патрэбай. Жонка была на вёсцы бадай ужо другі тыдзень. Зусюль веяла пустэчай і бязсэнсіцай. І Кастусю не хапіла аргументаў для свайго існавання.

Каму я патрэбны? Каму жыць? — задаваў сабе пытанні.

Пайшоў узяць ванну. Агаліўся. Вострачы брытву ведаў, што зробіць. Жаданне нарастала...

Знайшлі яго вечарам. Ніхто не плакаў. Пахаванне было падвойнае. Паклалі побач з дачкою.

**Міхась Шаховіч**

# А бедных ніхто не любіць

Бедных не толькі што ніхто не любіць, то яшчэ не любяць яны і самі сябе, або саромяцца таго, што былі беднымі. Бедныя — дурныя. Бо калі б былі людзьмі разумнымі то ведалі б, што сароміцца сваім пройдзеным можа толькі гультай.

За майго дзяцінства не ўсе елі хлеб з маслам і шынкай. Многа, вельмі многа было такіх, якія мелі ледзь сухі хлеб і бульбу. Іхні пост, апрача пастоў прадбачаных Царквою, трываў кругленькі год. Бо хто не з'еў бы кавалак каўбасы пасля абеду, які складаўся з таўканіцы „акрашанай" патоўчаным льном, або ў сенажаць ці жніво тую ж бульбу памятаю, ды акрашаную лонскім елкім салам у прапорцыі — верціха бульбы і лыжачка тлушчу, як на сям'ю, а то і найчасцей толькі спод лыжачкі быў мочаны ў тыглі і на цэлую верціху адна міліграмавая скварка. Калі даходзіла пара абеду і мачыха адрэзвала грудку бульбы падаючы кожнаму ў рукі, то кожны спадзяваўся, што гэтая скварка яму пападзе. Паеўшы гэтай гаротнай бульбы, папіўшы з гладышкі вадзіцы зноў хапаліся за работу.

У Вербніцу, 20 красавіка, першым у перадачы „Перад выхадам у царкву" ўзяў голас наш славуты айцец Рыгор. Як ён прыгожа гаварыў пра шчаслівае дзяцінства і вярбу! Пасля былі перадачы на ўкраінскай і беларускай мовах і ўсе гаварылі толькі аб тым, як калісьці выпякалі мазуркі, бабкі, вэндзілі каўбасу і шынкі ды свяціць выносілі аж удваіх, бо капанька была нагружаная мясам і іншымі ласункамі. Але ніхто з радыёжурналістаў не зайшоў да яшчэ, слава Богу, жывых колішніх беднякоў і не запытаў, як гэта было ў іх сем'ях за добрага санацыйнага часу, калі многія з іх з сорамам выносілі ў кошычку чатыры яйкі, соль і паўбуханкі хлеба ды сыр, каб мець на Вялікдзень свянцонае, чым будуць разгаўляцца прыйшоўшы раненька з царквы. Божа, хлеб і сыр, а смаката! Яшчэ і паловы не наеўся, а ўжо сыру няма. Добра, што хрышчоны дасць пару яек ішоўшы ў царкву на другі дзень, як валачобнае. На першы дзень у нас яек не давалі, бо гэта было прычынай збівання аб каменне пальцаў. Хацелася пабольшыць колькасць фарбаванага дабра і выйграць, каб наесціся да адказу, але пераважна выігрывалі цванікі і старэйшыя хлопцы. Мала, што было прыкра прайграць, то яшчэ і есці хацелася і ратунку не было, бо нават на плач не рэагаваў той, хто выйграў. Яму таксама залежала, каб мець больш. А колькі было пры тым жулікаў, якія налівалі яйкі смалою і давалі мацаваць. Мацуеш і пераканаешся, што яно ад твайго лопне, бо храбасціць, а яно драўлянае.

І чаму мы так „шчыра" ілжэм, каб камусьці лізаць ногі? Няхай сабе нас не любяць, але мы не маем права вымазаць з памяці мінулае, а ўспрыняць, прысвоіць і распаўсюджваць тое, што нам было крыўдным і балючым.

**Васіль Петручук**

## Нашы карані

### СІ. Ненавіснікі

Дагэтуль мы ў асноўным гаварылі пра абаронцаў Праваслаўнае Царквы і толькі зрэдку згадвалі аб яе праціўніках. А яны з незвычайнай раз'юшанасцю ўчынкамі, палемічнымі творамі ды прамовамі нападалі на праваслаўе. Такіх ворагаў нашай веры было не злічыць, асабліва ў час падрыхтоўкі і ўвядзення Берасцейскай уніі. Галоўным натхняльнікам і завадатарам уніі быў даравіты езуіцкі прапаведнік Пётр Скарга, яго спадзвіжнікамі — Гербст, Пасевін, а таксама кароль Зыгмунт III Ваза, некаторыя дзяржаўныя дзеячы як Сапегі, Радзівілы і іншыя, што дзеля кар'еры здрадзілі веру сваіх продкаў, да іх далучыліся здрадзіўшыя праваслаўную веру мітрапаліт Рагоза, епіскапы Цярлецкі, Гогаль, Герман і некалькі іншых.

Адным з першых і самых актыўных здраднікаў праваслаўя быў Іпацій Пацей (жыў у гадах 1541—1613, свецкае яго імя Адам). Паходзіў з беларускай шляхецкай сям'і з Ружанаў на Гарадзеншчыне. Закончыў Кракаўскі універсітэт, служыў каралеўскім сакратаром, дзевяць гадоў быў берасцейскім суддзёй, затым сенатарам Рэчы Паспалітай і каштэлянам берасцейскім. Перажыўшы цяжкую сямейную трагедыю, пастрыгся ў 1590 г. у манахі і праз тры гады быў хіратанісаваны ў епіскапа берасцейскага і ўладзімірскага. Сваю пастырскую дзейнасць пачынаў даволі прыстойна. Захавалася нават яго Прывілея з 1594 г. на дзейнасць Богаяўленскаму брацтву ў Бельску са школай, бальніцай і прытулкам для бедных. Аднак аказаўся вельмі хісткім і няпэўным у справах веры. Лёгка паддаўся агітацыі езуітаў, не ўстаяў перад націскамі караля і яго акружэння і пачаў вельмі актыўна дзейнічаць дзеля заключэння уніі. Дзякуючы сваім здольнасцям, адукацыі і аўтарытэту хутка знайшоў прыхільнікаў сярод праваслаўных іерархаў, падрыхтаваў унію і разам з Цярлецкім паехаў у Рым і яны самавольна падпарадкавалі Праваслаўную Царкву Рэчы Паспалітай Каталіцкаму Касцёлу.

Падчас сабору ў Бярэсці быў Пацей самым актыўным змагаром за унію. Потым кінуўся яе насаджаць. Усіх праваслаўных прымушаў пераходзіць ва унію, свяшчэннікаў і манахаў, якія не хацелі здрадзіць праваслаўю, біў, саджаў у турму, выганяў з парафій і манастыроў, разганяў праваслаўныя набажэнствы. Праследаваў праваслаўных так, як праследавалі першых хрысціян язычаскія ўлады. За такія незвычайныя заслугі папа рымскі пасля смерці мітрапаліта Рагозы ў 1598 г. паставіў мітрапалітам кіеўскім і ўсяе Русі Пацея. У барацьбе супраць праваслаўя ён не забыў скарыстаць свае пісьменніцкія здольнасці. Яму належыць шэраг публікацый як „Унія", „Размова берасцяніна з братчыкам", „Ерасі невуцтва і палітыка папоў і мяшчан віленскага брацтва" і іншыя, у якіх крытыкаваў, знеслаўляў, апаганьваў Праваслаўную Царкву і яе вернікаў, пісаў лісты да Канстанціна Астрожскага, намагаючыся перацягнуць яго ва унію. Усе яго творы, прасякнутыя пагардай і нянавісцю да праваслаўнай культуры, яе традыцый, выхвалялі каталіцызм. Гэта ён прымусам перавёў Супрасльскі манастыр ва унію.

**Мікола Гайдук**

# Пілін у фасолі

**Не пазнаў Пілін загона ў роднай вёсцы. Хоць зямлі ён не забыў.**

Пілін з М. з Гарадоцкае гміны што і раз прыязджае ў вёску, хоць даўно абжыўся ў Беластоку. Коля і Насця, яговыя старараватыя бацькі, і не думаюць здаваць гаспадарку, хоць ім ужо ўелася ў косці. Але, нават цягнуцца абрабляць палеткі суседзяў-пенсіянераў, — во там на ўрадлівых агародах пасеялі гуркі, там фасолю, там лапік аўса, тут будзе рэпа... Стары з крэктам лезе на трактар, Насця коціцца за ім следам. Нават на той трактар уцягвае сваё поўнае, хоць ужо не такое дужае цела. Летась падала Насця з трактара, паламала нагу, то Коля ў тое лета зусім з сілы выбіўся. Але ўдалося ўсё ў мінулым годзе сабраць, ды нічога не было б, калі б не Пілін са сваім сябрам (сябру давялося добра адплаціць).

Думалі раз ужо старыя кінуць усё і адпачыць. Але калі толькі прыгрэе веснавое сонейка, запахне свежай зямлёй і гноем, зазвініць жаўрук, Коля Пячкур ажывае, бегае па падворку, сюды-туды ездзіць па гаспадарчых справах, арэ... Аж сэрца баліць, калі бачыць, колькі добрае зямлі марнуецца. Ізноў набярэ зямлі, а нават і без пытання робіць тое, да чаго ніхто прызнацца не хоча, дзярэ даўно нечапаны дзірван. Іншыя жыхары ўзіраюцца і мяркуюць на лавачках: нашто Печкурам тая работа, тая зямля? Тыя бульба, пшаніца, жыта, авёс, тыя соткі гуркоў, ячменю, буракоў?.. Тыя каровы, авечкі?.. Дзеці ўсе ў горадзе, усім кватэры бацькі пакупілялі, цяпер унукам усё поўныя торбы цягнуць... А і так нявестка, Васева жонка, цешчу кацапкай абзывае... Торбы аж *пэнкаюць*, толькі ім усяго валакуць. Каб не тыя гасцінцы, то, пэўна, не было б ім чаго і цікавіцца старымі?.. Каму ўсё гэта пакінуць, тую гаспадарку? І так толькі Пілін што і раз прыедзе, робіць як шалёны — удуўся ў бацькоў. Замест ехаць дзе на *ўчасы* — ўчарнее на *лонцы*. Такая добрая ў Печкуроў зямля, але і так нікому яна непатрэбная: ніхто з дзяцей яе не хоча ўзяць, — ні тры дочкі, ні двух сыноў. Нават Пілін кажа: „Тато, нашто мне яна? У мяне добрая пасада, іду ўверх. Тато, мамо, здавайце ўсё, будзеце мець грошы кожны месяц. Адпачывайце. І так у нас у горадзе ў ніводнага месца няма — кватэры малыя, дзяцей поўна. Не будзе вас куды ўціснуць, калі расхварэецеся. Лепш у някепскім здароўі жыць вам тутака, дыхаць свежым паветрам. Мы і так вас наведваць будзем". І праўда, звоняць дзеці што і раз, пытаюцца, як здароўе, калі даўно матулі ў горадзе не было.

У мінулым годзе ў М. камедыя атрымалася, на пацеху ўсім людзям. А ўсё праз Піліпа і фасолю. Засеяў Коля пяць палеткаў фасоляю — тры свае і два суседчыны агароды. Парасла фасоля буйная, высокая, з крамянымі стручкамі; усё тут расце добра, на былой *тарпе*. Прыязджаў Пілін, тры разы палоў тую фасолю, умацоўваў яе на калках, падвязваў — на ўсіх загонах. Пра ўсё так дбае ён у бацькавай гаспадарцы — зярнятка ў яго не прападзе. А прыйшоў час, гаспадарлівы сын сабраў плён.

Вырваў Пілін сцяблінь фасолі, калочкі роўненька паскладваў на мяжы. Склаў фасолю на кучку і пайшоў па мяшок. Прыходзіць — няма фасолі! На загоне, які тата ўзяў у арэнду ў Кавалíхі! Вярнуўся Пілін дахаты, трымаючыся за галаву.

Ускіпеў Мікола! Успыхнуў чырванню, як індык: старая... Кавалёва забрала, няйначай. Ці памылілася яна, ці спецыяльна так цікавала, каб украсці плён, сабраны са свайго загона!?

Пячкур пабег да суседкі, заламатаў у сенцах, загрукатаў кулаком у дзверы. Кавалёва якраз высыпала попел з-пад пліты. Аж упусціла попельнік, так спужалася. А добры сусед за сівы гуглік валасоў на яе старой галаве ўчапіўся!

— Што ты, Коля, хочаш? Якая фасоля? Ды твая фасоля стаіць на градзе, уся ў пустазеллі! Ніхто яе не палоў, аж шкада было глядзець. Я сама ўжо думала прапалоць яе, ды быллё парасло вышэй мяне, як мне туды лезці з кульбаю! Трэ было Піліпа прысляць. Ты што мяне, суседзе, за косы турзаеш?! Во зараз пайду да солтыса, хай вызывае паліцыю! Супастат ты паскудны!

Вось такая справа! Пілін даўно не бачыў абедзвюх суседак, а і пасля дваццаці пяці гадоў забыўся, якая з іх „Кавалíха", у сапраўднасці Манька Куцінская, а якая Маруся „Кавалёва", па прозвішчу Каваль. Кавалíха рада — нейкі добры чалавек яе фасолю акуратна палоў, падвязваў, а нават і пазбіраў, то ўзяла радзюжку, забрала плён і панесла дахаты. А фасолю, якую пасеяў вясною Коля Пячкур, парарослую лебядой, пырнікам, драсёнам і чым там яшчэ, ледзь выдзер бедны Пілін.

Збегліся ўсе з вёскі, нават тыя на кульбачках прыгэпалі, каб паглядзець, як беластоцкі пан бушуе на загоне.

**Міра Лукша**

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXIX**

Вяртаючыся яшчэ раз да маіх размоўцаў, якія выказваліся аб радзіме, прагну сказаць, што ўсе яны адзначаліся выключнай сціпласцю і, мабыць, не ўсведамлялі сабе таго, што іх прызнанні, успаміны і рэляцыі маюць вялікае сацыялагічнае і гістарычнае значэнне. Сцвярджэнне аб сціпласці не адносіцца да незнаёмага студэнта, старонніка ды энтузіяста еўрапейскай пазанацыянальнай дзяржавы. Гэты размоўца быў далёкі ад усякай сціпласці. Выказваўся катэгарычна, рашуча, не чужыя яму былі агрэсіўныя інтанацыі. Аднак і яго не асуджаю. Маладосць заўсёды была, ёсць і будзе рашучай ды бунтарнай і таму поўнасцю разумею майго маладога апанента, які па-другому чым я бачыць будучыню беларусаў і Беларусі. Маладыя не павінны паўтараць практык старых. Іх заданне заключаецца ў пракладванні новых шляхоў у будучыню. Каб толькі ў гэтых парывах не было лішняй самаўпэўненасці і варожасці да тых усіх, хто думае па-свойму і дзейнічае па-свойму.

Аднак найбольшую ўдзячнасць адчуваю ў адносінах да маіх сялянскіх размоўцаў. Усе яны выказвалі недаўменне, чаму гэта я, гэта значыць адукаваны чалавек, цікаўлюся тым, што думаюць і гавораць „дурныя мужыкі". Трэба было доўга тлумачыць і пераконваць, што просты чалавек можа мець вельмі цэнныя думкі, ацэнкі і характарыстыкі. Пры нагодзе вёў я размовы на тэму сялянскіх уяўленняў аб душы. Выказванні маіх размоўцаў на гэту тэму выключна паэтычныя і, па-мойму, цудоўныя. Праяўляецца ў іх лёт выключнай фантазіі, якая, па сутнасці, не змяшчаецца ў хрысціянскіх догмах і пранікае ў глыбіню язычаскіх уяўленняў і светапогляду. Аднак гэта тэматыка будзе прадметам характарыстыкі маіх навуковых, а не публіцыстычных артыкулаў.

Публікуючы цыкл „Радзіма — Родзіна" я перад усім узбагаціў самога сябе. Аказалася, што шматлікія весткі, ацэнкі і факты пачэрпнуты ад маіх размоўцаў, не былі мне раней вядомымі і даступнымі. Услухоўваючыся ў рэляцыі самых звычайных людзей з Беласточчыны, у большасці маіх суседзяў, але таксама і беларусаў з эміграцыі я пераконваўся, што ў гэтых простых беларусах дрэмле вялікі інтэлектуальны зарад, які патрэбен не толькі мне але і многім іншым людзям. Размаўляючы з маімі інфарматарамі, я чуюся так, як чуліся сібірскія ці амерыканскія капачы, натрапіўшы на залатую жылу. Па сутнасці ніводзін з маіх размоўцаў не выказваў думак і ацэнак, якія б поўнасцю атаясамліваліся з думкамі і ацэнкамі маімі. І гэта, бадай што, цешыла мяне найболей, бо вядома, што ўзбагачае нас не той, хто поўнасцю думае так як мы, а толькі той, хто думае па-другому чым мы. І таму я з жахам гляджу на тых публіцыстаў „Нівы", якія з нянавісцю накідваюцца на людзей з іншымі чым іхнія поглядамі ды ідэямі. Але гэта людзі малога духа і думаць, а тым больш пісаць аб іх, не варта.

Практычна, усе мае размоўцы былі людзьмі вялікага духа. Кожны з іх па-свойму любіў сваю радзіму і прагнуў для яе лепшага лёсу. Аднак лёс гэты кожны з іх уяўляў па-другому. Для Янкі Міхалюка, Антона Адамовіча ці Сцяпана Багнюка лепшы лёс беларуса ў поўнай незалежнасці Беларусі. Для Фёдара Барщчэўскага ў поўным яднанні з Расіяй, для незнаёмага студэнта шчасце беларусаў у абсалютным зліцці з Еўропай і адрачэнні ад сваёй мовы, свядомасці і культуры. Пілін Карэтка ўважаў, што Беларусі незалежнасць прыдалася б, але ніколі на гэта не згодзяцца ні польскія паны, ні рускія гаспада ці таварышы. І вось у гэтым веера разнароднасці і часта супрацьлеглых ацэнак і прагнозаў бачу той шырокі дыяпазон беларускіх канцэпцыяў, з якіх раней ці пазней беларускі народ выбярэ найлепшы варыянт.

Для мяне асабіста самым аптымальным варыянтам з'яўляецца поўная незалежнасць Беларусі. Толькі ў поўнай незалежнасці можа народ праявіць усе свае інтэлектуальныя і практычныя здольнасці. А нацыянальная асвета ўсіх адукацыйных узроўняў гарантуе, што найвыдатнейшыя беларусы, узышоўшы на найвышэйшы ўзровень навукі, культуры і мастацтва будуць поўнасцю служыць свайму народу і сваёй дзяржаве.

Незалежнасць — гэта свежая кроў, дзякуючы якой правільна б'ецца нацыянальнае сэрца і эфектна рэалізуюцца нацыянальныя ідэі.

Выдатны польскі рамантычны паэт Цыпрыян Каміль Норвід выказаў крылатую фразу: „Айчына — супольны абавязак". Прыгожа! Можна было б яе папоўніць, дабаўляючы: „Айчына гэта супольны боль і супольная радасць". Усё гэта незразумелае для рэнегатаў, але поўнасцю прыемлімае для беларускіх патрыётаў. Веру, што шэрагі першых будуць з часам памяншацца, а другіх безупынна будуць расці, што і давядзе да поўнай дзяржаўнай і духоўнай незалежнасці нашай Радзімы — Беларусі.

**Алесь Барскі**

# Белавежа без галерэі

Турыстаў, якія сёлета захочуць у Белавежы наведаць Лясную галерэю Тамары Тарасевіч, чакае расчараванне. Галерэя проста... ліквідавана! Уласніцы гэтай культурнай установы, якая здабывала штораз большую папулярнасць, папросту надакучылі супрацоўніцтва з мясцовымі турыстычнымі ўстановамі, экскурсаводамі і гміннымі ўладамі, а таксама непрыхільнасць да яе ідэі і мастацтва беластоцкага мастацкага асяроддзя. У пачатку бягучага года мастачка выехала ў ЗША, а праз нядоўгі час далучыў да яе муж Сяргей. А паколькі ў ЗША ўжо другі год вучыцца дачка і сын студэнт Тарасевічаў, такім чынам на чужыне апынулася ўся сям'я.

Ці пасля вяртання ў Польшчу сп. Тамара захоча нанава стварыць галерэю? — на гэтае пытанне пакуль што ніхто не можа адказаць. Адно вядома, Белавежа без галерэі пасмутнела і ... збяднела.

**Пётр Байко**

# Аматары прыгожага слова

17 красавіка ў Бельскім доме культуры прайшоў фінал дэкламатарскага конкурсу „Сцэнічнае слова" — для вучняў сярэдніх школ. Арганізатарам мерапрыемства з'яўляецца Беларускае грамадска-культурнае таварыства.

Прынялі ў ім удзел 26 асоб: з Гайнаўскага і Бельскага агульнаадукацыйных беларускіх ліцэяў, а таксама наша карэспандэнтка Ірэна Лукша — Аўрора. Дэкламатараў ацэньвала камісія пад старшынствам заслужанага дзеяча беларускай культуры Міколы Гайдука, якому дапамагалі паэтэса Надзея Артымовіч і тэатральны інструктар БДК Яніна Плютовіч.

Журы прызнала трэцяе месца двум дэкламатарам: Ірэне Лукшы і ліцэісту з Гайнаўкі Мацею Сніткоўскаму, чыя інтэрпрэтацыя „Інтэрв'ю з п'яніцай" Міхася Шаховіча асабліва ўсім спадабалася. Другія месцы таксама былі два і ўзялі іх Моніка Самойлік з Бельска і Юліта Адамюк з Гайнаўкі. Перамаглі Мар'я Пятроўская (Бельск), якая, між іншым, чытала фрагмент рамана Івана Мележа „Людзі на балоце" і Тамаш Саевіч (Гайнаўка), які выступіў з версэтамі Алеся Разанава.

— Узровень выступленняў быў высокі, — ацаніла Надзея Артымовіч, — найбольш спадабаліся тыя ўдзельнікі конкурсу, у якіх было відаць індывідуальная зацікаўленні літаратурай і яе мастацкім пераказам.

**М. В.**

# Позірк у мінулае

**14 мая**

346 г. — памёр Пахомій, заснавальнік манастырскага манаства. Народжаны ў 287 г. ў Фіваідзе (Верхні Егіпет) у язычаскай сям'і, узрослым стаў на ваенную службу. Запаланіла яго дабрадзейнасць хрысціян і ён ахрысціўся, а далей падвізаўся інакам у наваколлі Фіваіды. У 323 г. заснаваў ён у шатрах у апусцелай вёсцы Табенісі на беразе Ніла першы хрысціянскі манастыр і абгарадзіў яго. З цягам часу манастыр той не мог змясціць усіх падзвіжнікаў, і Пахомій заснаваў далейшыя сем мужчынскіх і тры жаночых. Галоўнымі прынцыпамі манаскага жыцця Пахомій устанавіў індывідуальную бескарыслівасць і аднолькавыя для ўсіх манахаў вопратку, супольны стол і абавязкі. Манастыры Пахомія сталі самастойнымі гаспадарчымі адзінкамі з уласнымі пякарнямі, кухнямі, бальніцамі, і на матэрыяльныя справы клаўся галоўны націск іх дзейнасці. Яны распаўсюдзіліся не толькі ў Егіпце, але і ў Палесціне і Малой Азіі. Малаазіяцкія манастыры змянілі свой першапачатковы характар пад уплывам дзейнасці Васілія Вялікага, які асабліва націск клаў на духовы аспект манаскага жыцця: манаская праца мела быць не шляхам да матэрыяльнага забеспячэння, але праявай аскетызму, а затым і духовай дасканаласці.

1316 г. — нарадзіўся ў Празе Карл IV, чэшскі кароль і Свяшчэнны рымскі імператар. Атрымаўшы адукацыю ў Парыжы, каралём стаў у 1346 г. пасля смерці свайго бацькі Яна Люксембургскага. Адкінуўшы рыцарскія захапленні бацькі, Карл кіраваўся асэнсаваным рэалізмам і заўсёды аддаваў перавагу дыпламатыі перад войнамі. Пры ягоным панаванні пад яго родавае ўладанне Люксембургаў перайшлі м.інш. Брандэнбург, Сілезія і Лужыцы. Карл IV вядомы аднак найбольш з-за стварання ўмоў для культурнай дзейнасці. У 1348 г. заснаваў ён першы ў Цэнтральнай Еўропе Пражскі універсітэт. Пры ім пабудаваны былі ў Празе магутны замак, слаўны Карлаў мост і архіепіскапскі сабор, чым чэшскі Касцёл выйшаў з-пад падпарадкавання нямецкай курыі ў Майнцы. Памёр Карл у Празе 29 лістапада 1378 г.

**17 мая**

1838 г. — памёр Талейран, французскі дыпламат. Народжаны 2 лютага 1754 г. у знатнай сям'і, не могучы з-за слабога здароўя паступіць на вайсковую службу, стаў ксяндзом. Паколькі яго дзядзька быў архіепіскапам Рэймса, дык і Талейран у 1788 г. стаў епіскапам. Год пазней, аднак, у выніку канфлікту з папам адказаўся ад духоўнай кар'еры і стаў на дыпламатычную службу за мяжою, што, мабыць, і выратавала яго ад тэрору Рэвалюцыі. У 1797 г. займае пасаду міністра замежных спраў пры Дырэктарыяце, ад якой адказваецца два гады пазней. Памагае Напалеону Банапарту і зноў узначальвае французскую дыпламатыю, з якое, аднак жа, адыходзіць у 1807 г., лічачы палітыку свайго імператара небяспечна авантурысцкай і пачынаючы інтрыгаваць супраць яго ў замежжы. У 1814 г. паклаў вялікія заслугі для вяртання роду Бурбонаў на трон і зноў стаў міністрам, але толькі на год. У палітыку вярнуўся яшчэ ў 1830—34 гг. **(Ш)**

# Парнасік

## Кліент

Кліент — наш пан
Аб гэтым усе знаюць,
Хто ў горадзе жыве,
То краму выбіраюць.
А на вёсцы падзівісь,
Як там пражываюць,
Як прыедзе жыд у вёску,
У яго ўсе купляюць.
Ён не паклоніцца табе,
Нат не усміхнецца.
Думае як ашукаць
І гэта яму ўдаецца.
Як старэнькая бабуля
Грошай лічыць не ўмее,
З рукі ён тады бярэ,
Каб на яго халера!
А калі ў хаце бабуля
Ва ўсім разбярэцца,
Жыд даўно ўжо паехаў
І ў другую вёску прэцца.
Калі другі раз прыедзе,
Бабуля ўсё забыла,
Дзе і зноў у яго бярэ,
Бо не хватае хлеба.
Так цяпер у нас жывуць,
Аб гэтым усе знаюць,
У тых жыдоў-ашуканцаў
Людзі ўсё купляюць.

**Мікалай Лук'янюк**

## Сонца

Сонца свеціць і абагравае,
Нас і Бога праслаўляе.
Гэта вечнае свяціла
Шчасце, радасць нам дарыла.
Свеціць так, каб мы жылі,
Верным крокам усе ішлі —
Так, як Бог рашуча кажа.
Бо неспакой — гэта праказа.
А спакой, любоў і згода —
Каб жылі ў нас ад родаў
Ды не ведалі вайны
І былі б цудоўныя дні.
Сонца — гэта атмасфера
І вяліка Божа вера.
І цяпло, таксама холад;
Ураджай, а недзе голад.
Бог усім кіруе мудра;
Мы не верым, кажам — нудна.
Паўтараем: усё легенды
І дабіваемся да рэнты.
Сонца, гэта зорка ў небе,
Дасканалая ў патрэбе,
Для зямлі дае жыццё,
Залатое адкрыццё.
Шмат гадоў яно існуе,
Людзям усім прапануе:
Даражыце атмасферай
І жывой Хрыстовай верай,
Бо мяне вы не згасіце.
Цэлым светам даражыце,
Бо я сонца — усіх свяціла,
Радасць усім я падарыла.
Ад мяне ёсць Сонца большае
І нічуць, нічуць не горшае —
Гэта ёсць Ісус Хрыстос,
Што для грэшных уваскрос.
І Яго свет цалкам іншы,
Верны, вечны, не колішні;
Свеціць за ракой Іарданам,
Там, дзе праўда без абману.

**Мікалай Панфілюк**

# Згулялі вяселле

Эля была прыгожай дзяўчынай. Яе багатыя бацькі жылі ў адной з прыгарадскіх вёсак. Калі Эля пачала штудзіраваць, пазнаёмілася з Міркам, які быў на два гады старэйшы за яе і таксама вучыўся ў тым жа універсітэце. Прысягнулі яны адно другому, што абавязкова пажэняцца, калі закончаць адукацыю.

Пасля заканчэння навукі Мірак стаў працаваць у невялікім прадпрыемстве. Эля, якая яшчэ два гады прадаўжала вучобу, працягвала сустракацца з Міркам. Калі дзяўчына закончыла навуку, бацькі купілі ёй кватэру ў горадзе і самаход. Асабліва настойвала на гэта Эліна маці, Гражына, якая заўсёды паўтарала бацьку, што будзе вельмі брыдка, калі іхняя дачка не будзе мець дзе спакойна спаткацца з хлопцам.

Маладыя сустракаліся звыш пяці гадоў і калі Эля зацяжарыла, Мірак не адмаўляўся ад дзіцяці. Тады вырашылі пабрацца шлюбам. Маці настойвала як найхутчэй згуляць вяселле, пакуль у дачкі не відаць яшчэ жывата. Неадкладна вызначылі тэрмін шлюбу, зарэзалі ялоўку, закалолі парсюка, зрабілі вяндліну, склікалі 254 асобы з Міркавае ды свае радні.

Але сталася найгоршае: Эля пачала крывавіць і трэба было выклікаць хуткую дапамогу. Элі ў бальніцы стрымалі крывацёк і сказалі, што ёй трэба ляжаць прынамсі тры тыдні, каб шчасліваданосіць малое. Эліна маці пашкадавала закускі і вырашыла адбыць вяселле нават без маладой. У дырэктара бальніцы дабілася яна дазволу, каб шлюб адбыўся ў шпітальнай святліцы. Прывезлі вэлюм, сукенку, прыехалі найбліжэйшыя і ксёндз. Зышліся ўсе хворыя, каб павіншаваць маладую пару.

Пасля шлюбнай цырымоніі, калі маладыя з сям'ёй паехалі на вёску веселіцца, Элю схапілі болі і крывацёк. Лекарам не ўдалося ўратаваць дзіцяці і яна скінула.

Цяпер Эля, хаця і жыве з Міркам, ходзіць вельмі нешчаслівая, ніколі не відаць усмешкі на яе твары і наракае, што ўсё гэта цераз родную маці.

**Мікалай Лук'янюк**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 2. астатак ампутаванай канечнасці, 4. злучае ворчык з хамутом, 6. рух вады або паветра, 7. бурштын, 9. парадак, зладжанасць, 11. з яго пража, 12. помнік, 13. слаўны нямецкі кампазітар (1685—1750), 15. продак шкарпэткі, 17. плод капусты, 18. каровінае мяса, 19. украінскі порт.

**Вертыкальна:** 1. беларускі першадрукар (1490—1541), 2. цвёрдая тканка, 3. жаночае імя, 4. прыгожая жанчына, 5. веруючая жыхарка напр. Італіі, Іспаніі, 6. сталіца Чэхіі, 8. аўстра-вянгерскі ўкраінец, 9. частка твару, 10. верхняя частка будынка, 14. епіскап, 16. другі пакос, 17. ільдзіна на рацэ.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 12 н-ра:**

**Гарызантальна:** франк, кракадзіл, Тэмза, кухар, Уша, Кунашыр, Ясельда, акт, Анега, куцця, акружэнне, кукса.

**Вертыкальна:** Чарамош, фраза, казак, Кампанела, ліхалецце, труба, Рудня, ура, аят, крыжакі, аброк, Конга.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко і Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Сніцца мне, Астроне, што я ў сваёй роднай хаце на вёсцы. Гляджу ў вакно і бачу: па дарозе ідзе мая братавая з нейкай жанчынай. Яны штосьці ядуць, здаецца ці не бутэрброды з адбіўнымі катлетамі. Братавая незадаволеная, не падабаюцца ёй гэтыя бутэрброды. Я, убачыўшы іх, падумала, што хутчэй трэба прыбраць у хаце, бо яны ж напэўна зойдуць. Ды гляджу, а ўся падлога ў пакоі і на кухні пасцеллю засланая. Пасцель не каляровая, а ўся белая. У кухні пры пліце спіць маленькі ўнучак братавай. Яму толькі некалькі месяцаў і непадалёк яго — сын маёй малодшай дачкі, дванаццацігадовы хлопец. Больш нікога не бачу. Потым я ўжо з братавай на панадворку. Ідзем у напрамку могільніка і там многа людзей. Братавая кажа, што гэта экскурсія з іхняга прадпрыемства. І яна разам з імі прыехала. Я кажу, ідзем наведаем магілы нашых родных. І прачнулася.

**Хрысціна**

Хрысціна! Твой сон даволі супярэчлівы. Першая яго частка сведчыць аб нядобрым ходзе тваіх спраў. Усе яго элементы — жанчыны, нясмачныя бутэрброды з мясам, а найбольш падлога ў пакоі і на кухні, засланая ўсюды белай пасцеллю, гавораць за тое, што ў тваёй сям'і нехта можа захварэць. Жанчыны дадаткова могуць абазначаць нейкія брудныя плёткі, што будуць снавацца вакол цябе.

Другая, аднак, частка сну прадвяшчае, што пасля ўсіх тых нягод прыйдзе супакаенне. Могільнік абазначае заўсёды супакой, поспех ва ўсіх найцяжэйшых справах, чаго табе і жадае ад усяго сэрца старэча — **Астрон**

Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1997 r. upływa 5 czerwca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Прыпеўкі

Куды рынак наш імкнецца?
Куды чорт яго нясе?
Колькі год яго, здаецца,
Трасца нейкая трасе.

Я на рынак паглядаю,
Што рабіць — не ведаю.
Абяцанні ўсё глытаю,
Тыдзень не абедаю.

У жыцці мы поспех маем —
П'ём гарэлку ды гуляем.
Пакідалі працаваць,
Пайшлі грошыкі шукаць.

Мужык жонку адхапіў —
Пекную кабету.
Ды ад радасці запіў,
Каб не бачыць свету.

А я жонкі не баюся,
Яе не пужаюся.
Калі лезе — баранюся,
Кіем адбіваюся.

**Эдуард ПАЎЛЮЦЬ**

# Скажам праўду

Прафесар задае пытанне студэнтцы медыцыны:

— Які чалавечы орган можа павялічыцца ў чатыры разы?

— Ха-ха!

— Я меў на думцы, дзетка, пячонку. А ваша „ха-ха" можа павялічыцца толькі двухкратна.

* * *

У парку на лавачцы мужчына іграе ў покер са сваім Рэксам.

— Які разумны ў вас сабака! — захапляецца прахожы.

— Яшчэ не зусім: калі яму падыдзе добрая карта, пачынае віляць хвастом.

* * *

На шпацыры ў парку дзяўчынка з цікаўнасцю ўзіраецца на цяжарную жанчыну.

— А што там у вас ёсць?..

— Дзіцятка.

— А вы яго кахаеце?

— Вельмі.

— Ах, а чаму ж вы яго з'елі?!

**(лук)**

# Ніўка




*Мал. Я. БУСЛА*

# Па гарачых слядах

У пакой участковага інспектара міліцыі забегла жанчына.

— Паўлавіч! — на парозе яна спынілася, каб аддыхацца. — Бяда!

— Што такое?

— Авечку ўкралі. Учора была, такая здаровенькая, а сёння заходжу ў хлеў — пуста. Можа, каб па гарачых слядах...

— Усё ты ведаеш, Матруна. Нават тэрміны міліцэйскія „па гарачых слядах"... Сама дзе была ўчора? Я два разы да хаты прыходзіў.

— Па якой патрэбе?

Матруна падышла да стала.

— Па якой... Піць калі кінеш? Не сорамна? Паглядзі на сябе ў люстэрка!.. Ладна. Па гарачых слядах... Скажы дзякуй старшыні калгаса, што ўчора даў дваццаць літраў бензіну, а то перліся б да цябе адзінаццатым нумарам.

Праз пятнаццаць хвілін „Масквіч" участковага спыніўся ля хаты Матруны Канцавой. Гаспадыня павяла старшага лейтэнанта да хлеўчука.

На дзвярах вісеў замок.

— Што, замок вісеў?

— Вісеў, Паўлавіч, вісеў. Ключы пададбіралі, супастаты, не іначай.

Нарэшце ўвайшлі ў хлеў.

— Во тут стаяла. Адчыню, бывала, дзверы, да мяне бяжыць... — Матруна паднесла да вачэй насоўку.

Участковы агледзеў яслі. Нідзе ні травінкі, ні саломінкі. У столі — дзірка, куды ўпіраецца лесвіца.

— Будзем шукаць, — абвёўшы сцены ўважлівым позіркам, буркнуў старшы лейтэнант. — Напішы заяву, усё такое. Зачыняй хлеў, пойдзем.

Навошта зачыняць? Пуста ў хляве.

— Ну, як сабе хочаш.

Толькі адышлі на некалькі крокаў, як аднекуль пачулася бляянне авечкі. Не гаворачы ні слова, участковы вярнуўся да лесвіцы. Некалькі імгненняў разглядаў гарышча, потым паволі спусціўся.

— Кажаш учора была ў хляве? Па гарачых слядах?

— Ага...

— Твая авечка на гарышчы... Ты, Матруна, прападала колькі дзён, дык авечка, каб не здохнуць з голаду, па лесвіцы на гарышча ўскарабкалася... Завяду справу. За здзек над жывёлінай, за абразу суседзяў і — накіроўваю на прымусовае лячэнне!

Участковы расшпіліў сумку і ўзяў адтуль паперу і ручку...

**Іван ПЯШКО**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Татка, ці мамачка напэўна вяртаецца гэтым цягніком?

— Не гавары столькі, толькі раскручвай рэйкі!

* * *

Жонка будзіць ноччу мужа і шэпча:

— Здаецца мне, што хтось ёсць у кухні...

— Дык сходзі на цыпачках у пярэднюю і абудзі сабаку.

* * *

Памерла жонка; муж пахаваў яе ўрачыста, штодня хадзіў на магілкі падліваць кветкі, а праз месяц падаў у царкву на шлюб з другою. Свяшчэнніку гэта не спадабалася і папракае жаніха:

— Яшчэ першая не астыла, а ты ўжо другую знайшоў...

— Папраўдзе, яна ўжо пры жыцці халодная была.

* * *

Жонка да мужа:

— У маі міне 25 гадоў нашага сужыцця; адсвяткуем сярэбраны юбілей...

— Лепей пачакаць яшчэ пяць гадоў і адзначыць заканчэнне трыццацігадовай вайны.

* * *

У камісарыят паліцыі ўбягае запыханы мужчына:

— Арыштуйце мяне! Толькі што кінуў прасам у жонку...

— Забітая?

— Не папаў, і зараз яна сюды ўварвецца!

* * *

Пасварыліся маладыя жонка з мужам.

— І дзе ж я мела галаву, калі ты прасіў у мяне руку! — галосіць яна.

— На маім плячы.

* * *

Жонка да мужа:

— І не гавары толькі, што сёння зрабіла я табе новую авантуру! Гэта толькі працяг учарашняй.

* * *

Муж:

— Гаворыш да мяне як ідыётка!

Жонка:

— Гавару так, каб мог ты мяне зразумець!

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Ведаеш, Сэрцайка, ёсць у мяне сябра. Пасябравалі мы з ім, калі былі ў войску. Я, адслужыўшы, вярнуўся ў Беласток, а ён — у сваю Варшаву. Уяві сабе, што мы сябравалі далей, нягледзячы на адлегласць, якая дзяліла нас. Летам ён заўсёды прыязджаў да мяне і мы разам ездзілі на азёры. Я даволі часта бываў у Варшаве па службовых справах, часамі затрымліваўся на некалькі дзён. Жыў я тады заўсёды ў майго сябра. Калі ён жаніўся, я быў яго сведкам. Мне здавалася, што я добра ведаў гэтага чалавека.

У новых умовах ён па-ранейшаму быў гасцінны. Я бываў у іх хаце даволі часта, пакуль не нарадзіліся яго дзеці. Пасля ўжо я не хацеў перашкаджаць. Тым часам ажаніўся і я. Пры гэтым вынікла крыху непрыемная справа. Я хацеў, каб мой сябра і яго жонка былі маімі сведкамі, а ён прыехаў не з жонкай, а з нейкай іншай дзяўчынай. Я быў вельмі здзіўлены, а ён мне толькі шапнуў на вуха: „Гэта мая нарачоная!"

Я не мог даравацъ яму гэтага, але пасля шлюбу ён мне ўсё расказаў, як было. Жонка яго нягодная, жыць з ёю немагчыма. Ты не глядзі, што яна пры гасцях такая міленькая, у хаце ўмее яна зрабіць такое пекла, што хоць уцякай. Шкада дзяцей! Во ў санаторыі я пазнаёміўся з дзяўчынай, дык кажу табе: анёл, дальбог анёл! І сам бачыш, што прыгожая.

Так, я сапраўды бачыў, што гэтая дзяўчына была шмат прыгажэйшая за яго жонку, хаця не была маладзейшая за яе. І не скажаш, што з розумам абы-якім: вышэйшую адукацыю мела. Ну, але што з таго, калі ў чалавека ёсць жонка! А дзеткі, хто іх выхоўваць будзе...

Ведаеш, Сэрцайка, сябра ёсць сябрам. Неяк ён мяне пераканаў, што робіць вельмі добра. Нарэшце спаткаў ён у жыцці сапраўднае каханне. Свежае, бязмежнае. Толькі з ёю ён можа быць шчаслівым. Пра дзяцей не забудзецца, калі нават кіне жонку.

Ну, і вядома, кінуў яе, а з той другой пачаў жыць, наняўшы невялічкую „кавалерку". З часам узяў развод з першай жонкай і ажаніўся з другой. Ён быў у сёмым небе, аж папрыгажэў неяк. Я цешыўся, што мой сябра нарэшце шчаслівы, бо сустрэла яго вялікае пачуццё, каханне на ўсё жыццё.

Мінулі гады тры, як я ажаніўся, было ўжо двое дзетак таксама, і момантамі я пачынаў зайздросціць майму варшаўскаму сябру. Добра яму! Жыве сабе з каханай дзяўчынай, усюды ходзяць, ездзяць па свеце, а я вось тут сяджу і дзяцей выхоўваю. Як толькі прыйду дахаты, так жонка ўжо мне і перадае дзяцей: адно — на руках, другое — у калясцы. Вечная сціркa, гатаванне, сочкі, мяшанкі. Не! Інакш я сабе ўяўляў маладую сям'ю.

І ў сваіх разважаннях я ўсё больш прызнаваў рацыю майму сябру. Мне таксама хацелася быць чалавекам.

Аднойчы мы паехалі з нашым прадпрыемствам на два дні на экскурсію ў Варшаву.

Ну, думаю, гэтага вечара то я не змарную. Я запрасіў на вячэру адну маю сяброўку з працы, ды пазваніў сябру, каб яны з жонкай прыйшлі ў сем вечара ў рэстаран, што быў пры нашым гатэлі. Зразумей, я іх хацеў пачаставаць, каб неяк аддзякаваць за сэрца, якое аказвалі яны мне. Ну, і пагулялі б крыху.

Я вельмі стараўся, каб усё было, як кажуць, ціп-топ. Дагэтуль я, калі прыходзіў да сябра ў госці, браў адно паўлітроўку. Цяпер я назаказваў усяго і сам за ўсё заплаціў. Хацеў зрабіць перш за ўсё ім прыемнасць, а заадно і патанцаваць з сяброўкай з працы.

Было вельмі прыемна, я цешыўся, як дзіця. Калі мы з сябрам выйшлі ў туалет, ён мне кажа: „Але ж ты дурань! Столькі грошай выкінуў у балота. Ды за гэтыя грошы мы маглі б узяць дзве „лялечкі", што выкручваліся б так, як мы б хацелі! Бачыш, колькі іх сядзіць і чакае".

У мяне ў сярэдзіне ўсё пахаладала. А што з тым вялікім каханнем, пра якое я столькі наслухаўся? Дык хто ён?

**СЦЯПАН**

Сцяпан! Высветлілася, што ў твайго сардэчнага сябра такі ўжо характар. Вялікае каханне, бадай, для яго — паняцце абстрактнае. Кожнае наступнае будзе яму большае. А ты пастарайся быць з ім у добрых адносінах, не ўваходзячы ў жаноча-мужчынскія справы, бо яшчэ і твае дзеці застануцца без бацькі.

**СЭРЦАЙКА**